## *I. У кожным з нас – паўстанцкі дух*

1

Дзядзька Рыгор казаў:

– Я баюся сцвярджаць, што я чалавек шчаслівы, але і не магу сказаць, што я нешчаслівы. Тут ужо з якога боку паглядзець і якім прыборам вызначаць тое шчасце. Калі Бог даў табе жыццё, адправіў у жыццёвую дарогу, ды і ў не абы якую дарогу, а поўную пакутаў і выпрабаванняў, то міжволі задумваешся – ці выпадкова выпаў перада мною такі шлях?

Бог не спакушае, Ён толькі можа падвесці нас да нейкіх спакусаў, але я нічым у жыцці не спакушаўся, абыходзіў іх. Так сталася, што я быў кінуты нкусаўцамі на пакуты і здзекі, прыніжэнні і абразы, на выпрабоўванне сілы волі і духу. Знаходзіўся на мяжы жыцця і смерці.

Не раз задумваўся – для чаго мне была падрыхтавана такая доля? Хто ў тым вінаваты? НКУС і Савецкая сістэма? Так, але… Я абвінавачваў у тым, так бы мовіць, усіх і ўся, і меў, здаецца, рацыю. Але нешта перашкаджала мне ўпэўніцца ў сваіх здагадках і высновах, нешта хавалася яшчэ глыбей, да чаго і даўмецца не мог.

Чытаючы Біблію, доўгі час не мог зразумець Божы Запавет – “любіце ворагаў вашых”. І там, за кратамі, думаў пра тое. Не даходзіла тое да маёй свядомасці – як гэта: любіць сваіх катаў-нкусаўцаў? Верыў: нездарма так гаварыў Вышні, – проста для звычайнага чалавека, не верніка, а мо і верніка, але і не атэіста, схаваны сапраўдны сэнс запавета.

То пазней ужо, значна пазней, калі вырваўся на волю, пазбегшы крывавых кіпцюроў катаў і забойцаў, калі паспрабаваў уліцца ў вялікую сям’ю савецкіх людзей, калі адчуў, што я аніяк “не ўпісваюся” у гэтае вольнае жыццё, – мае мазгі пачалі думаць зусім інакш, не так, як пра тое марыў там, за кратамі.

У маёй душы не знік, не прапаў дух змагара, а тут, на волі, бачачы, як улады здзеваюцца над сваім людам, а яны маўчаць, нічога не прадпрымаюць для супраціву, – я жахнуўся. Я не пазнаваў людзей. Мы там, у канцэнтрацыйным савецка-сталінскім лагеры, ядналіся, выпрабоўвалі адзін аднаго – як жанчыны, так і мужчыны, – патрабавалі ад уладаў чалавечых адносінаў да нас, змагаліся за свае правы, а тут… Быццам бы і вольныя, а знаходзіліся за духоўнымі кратамі. Ды яшчэ і не задумваліся над тым становішчам, над сваім прыгнечаным становішчам, насілі на дэманстрацыях партрэты кіраўнікоў сістэмы ды крычалі ім “здравіцы”…



Адчуў сябе ні тое што чужым сярод усіх, а нейкім адарваным ад жыцця чалавекам. І чамусьці я ім не зайздросціў. І яны, мусіць, не зайздросцілі мне. Мы як бы знаходзіліся на двух палюсах, у двух вымярэннях. Я бачыў усё наскрозь, балюча бачыў, занепакоена, а ўсе вакол былі абыякавыя і інертныя…

Я быў у нечым вышэй іх. Бачыў глыбей, чым яны. Хацелася крыкнуць у прастору: “Людзі, прачніцеся! Вам не аддаецца тое, што належыць, што вы заслужылі за доўгія гады працы, вас абкрадаюць духоўна і грашова!..”

Тое мне напамінала Гарлаг. У нас былі наглядчыкі – і тут яны, толькі ў выглядзе чыноўнікаў, у нас не хапала харчоў і адзення – тое ж самае і тут, кіравалі ўсім блаты і “валасатая рука”… Ды шмат чаго яшчэ мне кінулася ў вочы.

Я за час адсідкі скончыў мо пяць універсітэтаў і акадэмій, вывучыўшы эканоміку і філасофію, палітэканомію і старадаўнюю літаратуру – усходнюю і заходнюю, гісторыі станаўлення дзяржаваў і кантынентаў, канстытуцыі ўсіх дзяржаў, праштудзіраваў Біблію – “Стары і Новы запавет”, забароненую літаратуру, – ды шмат чаго іншага, чаго не вывучаюць ні ў адным ВНУ Савецкага Саюза! Хто можа пахваліцца такім багаццем набытых ведаў?

Я мог чытаць лекцыі па тых прадметах у любой навучальнай установе як кандыдат ці доктар навук, але ў мяне не было дыплома, – зэкам і вязням іх не выдавалі. Як і не запрашалі выкладаць тыя прадметы. Хаця б у якасці эксперымента. Хаця б адну лекцыю ў нейкім ВНУ. Нават без палітыкі, без асэнсвання ці крытыкі сістэмы. Зразумеў: яны баяліся мяне. А я іх – не.

Я выпаў з абоймы савецкай сістэмы, – яна не дапускала мяне да сябе як чужароднае цела, якое магло сапсаваць “чысціню” таго ладу, яго моц і сілу. Магутны Саюз, пабудаваны на крыві многіх народаў, якіх сілай і прымусам уцягвалі ў тое балота, здавалася, стаяў непахісным помнікам і нішто яго магло зрушыць з месца.

І атрымалася так, што турэмныя ўніверсітэты, слуханне лекцый вязняў-прафесароў, сустрэчы з Нэттэ і Рознерам ды іншымі слыннымі людзьмі, – выкавалі з мяне зусім іншага, не савецкага, чалавека, больш таго – антысаветчыка. І я не толькі ўдзячны турэмнай навуцы, але і тым, хто здзекваўся над намі, зневажаў і прыніжаў нас і – забіваў. Мы, вязні, насуперак іх жаданням, нараджаліся нанова, у нас усялялася зусім іншае сэрца, а з ім і мазгі, якія думалі інакш, думалі вольна і ўзнёсла, як можа думаць і лётаць вольная птаха ў нябёсах.

Вось яно – адкрылася, высвецілася: “любіце ворагаў вашых”. Гэта азначала любіць выпрабаванні свае, лічыць іх іспытамі перад судом Божым, не праклінаць і не ганіць мінулае – з ворагамі, што чынілі смерці, Вышні разбярэцца і пакарае іх, але за тое ў нас душы засталіся чыстыя, не вы-

пэцканыя ў бруд д’яблавых спакушэнняў. Нас спакушалі пайкамі і міскамі баланды, абяцаючы жыццё, калі мы паддамося і будзем супрацоўнічаць з пасланнікамі д’ябла, – мы не пайшлі на тое, не спакусіліся…

І недзе з цягам часу нараджаліся радкі:

*“Мы за кратамі – і таму вольныя,*
*мы – на свабодзе, і таму за кратамі…*
*Мы не схілім галовы перад катамі, –*
*Нашыя мары – не крамольныя…*

Там, за кратамі, нараджаліся новыя людзі новых рэспублік, якія нідзе пакуль што на мапах не абазначаны, – рэспублікі патрыётаў і нацыяналістаў, якія складаюць касту людзей справядлівых і высакародных, якія адданы сваёй радзіме і свайму народу… Такога нідзе ў свеце не было, а мы іх стваралі, – Мы іх стварылі!

І кожны прадстаўнік свайго народу рабіўся аўтаматычна кіраўніком той новастворанай краіны, дзе валадарылі Бог і Справядлівасць, дзе не было бедных і багатых, прыдуманых лысых ідалаў на пастаменце з выдаўжанай рукой і з вусамі, дзе ўсе былі падпарадкаваны адной ідэі – быць роўнымі сярод усіх і адметнымі ў сваёй нацыянальнасці. Гэта не ўтопія, гэта не фантазіі, тое было насамрэч, бо другога ці іншага жыцця пад кулямі савецкіх аўтаматаў і кулямётаў, мы не ўяўлялі і не марылі.

Дзякуй табе, савецкі канцлагер! Ты зрабіў з нас, сам таго не ведаючы і не падазраючы, сапраўдных людзей! І цяпер ніякая ідэалогія і маральныя кодэксы камуністаў не крануць нашыя душы, мы ўжо іншыя і, – дай Бог! – каб нашыя дзеці і ўнукі трымалі ў руках наш сцяг, сцяг паўстання супраць несправядлівасці і веры ў будучыню! Светлую і справядлівую будучыню!

Ды я шчаслівы хаця б ад таго, што сустрэў каханне – Ганну, што маю дачку Людмілу і сына – Юрася.

Я бачу ў іх працяг сваёй справы, свайго змагання за лепшую Беларусь, за заўтрашні дзень.

Дрэвы пасадзіў, – цэлы сад, хату пабудаваў, нарадзіў дзяцей. Што яшчэ трэба для шчасця? Як кажуць, цяпер і паміраць можна, але я так не скажу – паміраць нам яшчэ рана, мы яшчэ не ўсё здзейснілі, што планавалі, мы яшчэ не да канца выканалі клятву паўстанцаў, якую давалі там, у савецка-камуністычных катавальнях-лагерах, што ачысцім сваю Айчыну ад бруду і пошасці, зробім яе шчаслівай і вольнай.

Чыстай.

Адухоўленай.

З беларускім Храмам, пазбавіўшыся залежнасці ад РПЦ.

Так што трэба яшчэ пажыць, каб папрацаваць для шчасця роднай Беларусі!

І няхай вечна жыве і квітнее Беларусь!



***Мы чуем адзін аднаго…***

– Нам не патрэбны тэлефоны, нам не патрэбна нават перапіска, нават сустрэчы, каб пагаварыць, – гаворыць “антысаветчык” дзядзька Рыгор. – Мы чуем адзін аднаго на адлегласці, быццам знаходзімся побач, мы бачым адзін аднаго, галасы чуем і можам пазнаць сябра ці сяброўку па голасе і тэмбры, адчуваем душу пабрацімаў і сяброў па Супраціву… Ведаем, каму кепска, у каго нейкая радасць, што нехта ляжыць у лякарні, што яму патрэбны лекі… Мы знаходзімся ў агульным бараку, які не мае нумару, але гэта неабдымны абсяг тэрыторыі і часу. Быццам бы няма аховы і наглядчыкаў, але яны ёсць, быццам бы вольныя “падчыстую”, а на кожнага з нас накінута арыштанцкае адзенне і паласатая роба…

Дзіўнае ўяўленне, скажу табе, дзіўнае! Быццам бы гэта сон, але не магу прачнуцца, быццам бы гэта ўяўнасць, але яна падобная на сон: усё перакулена з ног на галаву… Быццам стаю і жыву на роднай зямлі, а ўсё чужое – атмасфера, людзі, падзеі. І быццам бы здараецца ўсё не са мной, а з некім іншым.

І тады я гукаю ў прастору:

– Гэй, дзе вы, родненькія? Адгукніцеся! Мне не хапае чыстага паветра, не хапае вас, мае родныя паўстанцы! Адгукніцеся, жывыя ці мёртвыя, якіх пахавалі ў мёрзлай зямлі Нарыльскіх прастораў, абудзіце мяне ад летаргічнага сну, – я заблытаўся ў мярэжах савецкай сістэмы, трапіў зноўку ў сіло наглядчыкаў гэтай сістэмы! Ау-уууу!

І пачулі мяне мае любыя таварышы і сябры, адгукнуліся, дзясяткі і сотні лістоў у падтрымку прыслалі мне ў мой Порт – на Партовую вуліцу ў Гомелі. Кожны ліст – гэта працяг удараў майго сэрца, сілкаванне маё і сіла. Дзякую, сябры, не забуду вас ніколі!

Таму прашу ў вас дазволу, каб падзяліцца з вашымі лістамі, падзяліцца з іншымі, – у іх, лістах адкрываецца іншы свет, іншае бачанне жыцця, і не ўсе зразумеюць тое. Не адразу зразумеюць. Але, як казаў Гасподзь, хто мае вочы, убачыць, а хто мае вушы – пачуе. Хачу, каб мяне пачулі і ўбачылі ўва мне таго, кім я хачу прадстаць перад вамі, людзі!

Чытайце, зайздросьце, я – Грамадзянін будучай краіны, той жа БНР, якую стараўся стварыць разам з усімі мой сябра Цімох Вострыкаў.

Кожны ліст – гэта чалавечае сэрца, і яно б’ецца гулка і апантана. І нашыя сэрцы б’юцца сінхронна, бо мы сталі адным арганізмам, адзіным космасам, адзінай баявой духоўнай адзінкай, якая налічвае ў сабе мільёны і мільёны людзей, якія не могуць жыць у створанай штучна і таму хлуслівай краіне.

Мы былі за кратамі, але былі вольныя, бо жылі думкамі ў новым ладзе, у новым асяродку, дзе панавала шчасьце і дабрыня, сумленнасць і павага адно да аднаго.

Мы нават увязненыя не былі вязьнямі, мы былі змагары, адчуваючы плячо адзін аднаго, і ў тым шэрагу былі мужчыны і падлеткі, жанчыны і дзяўчаткі, нават дзеці, якіх краіна кінула на здзек і выжыванне.

Чытайце і адчуйце, хто мы, чытайце і не здзіўляйцеся, што мы думаем інакш, бо мы выхаванцы імперыі з калючага дроту, і вучыліся мы жыццю не па падручніках Сталіна-Леніна, а, як катаржане і катаржанкі, трымаючы ў руках кайло і лом…

Чытайце…

2

***Лісты да мяне***

– А вось такія лісты, што дасылаюць мне, прыдаюць сілы, усяляюць упэўненасць у будучае, прачытай. Напісана на роднай мове, што вельмі і вельмі прыемна.

“ *19.05.94 г*

Паважаны Рыгор Сяргеевіч!

Вельмі прыемна, і вітаю Вас, што Вы ўжо знаходзіцеся ў шэрагу змагароў і робіце добрую справу. Беражыце сябе, захоўвайце, як можаце, сваё здароўе, бо Вы ўсяго сябе аддаяце ідэі адраджэння, патрыятызму, таму павінны быць несмяротнымі!

Я не крыўдую на Вашае самавольства, няхай чытаюць і робяць самі высновы аб гісторыі краіны.

Вельмі балюча, што наш народ так забіты і прыгнечаны антыбеларускай прапагандай, і таму хварэе на нігілізмам да ўсяго роднага беларускага, настальгуюць па таннай каўбасе ды гарэлцы. Ёсць невялікія зрухі ў лячэнні гэтай хваробы, але зусім слабыя.

З якімі пакутамі абаранілі нашую мову, а тут зноў навала чумы. Ад ветэранаў і парцейцаў паслана заява ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета для склікання нечарговай сесіі, каб разгледзець пытанне аб адмене нашай сімволікі. Бо быццам бы яна не адпавядае мэтам святкавання 50-годдзя вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў Беларусі. Каб Вы толькі адчулі, як мяне тое ўсхвалявала і абурыла! Няўжо Бог нам на дапаможа ў гэты гістарычны час?!

Я таксама зрабіла вельмі маленькі унёсак па падпісцы за Пазьняка, па сваёй ахвоце, а калі б яшчэ мела пасведчанне ініцыятыўнай групы, зрабіла б нашмат больш, а так толькі сярод сваіх блізкіх і сяброў сабрала 45 подпісаў.

Не думаю, што атрымаю запросіны з Масквы, скажу шчыра – мяне пакрыўдзіла іх бязветлівасць, за такі адрэзак часу можна было б напісаць колькі слоў. Я ім паслала не адзін ліст, ды прасіла прыслаць мне назад выразкі з газеты, для мяне гэта каштоўны дакумент.

На заканчэнне запрашаю Вас разам са спадрожніцай жыцця прыехаць да мяне ў госці. У мяне часта збіраюцца людзі, мы абменьваемся думкамі, спяваем, чытаем вершы. Без гарэлкі, а толькі з каваю і гарбатай.

Прыязджайце на свежы мёд (я трымаю пчолы, якія раней даглядаў муж, не стала яго), лепшага пачастунка і не прыдумаць. У мёдзе – водар і моц нашай Радзімы!

З пашанай і павагай – *Вера Касновіч. Гарадзея Нясвіжскага раёну, жыву па вуліцы Чырвоназорнай, 12”.*

………………………………………………………..

“ *23.11.95 г.*

Шаноўны Грыша!

Дазволь цябе так называць, бо ў памяці засталося тое імя, якім цябе называлі там, у зняволенні.

Учора па тэлефоне прачытаў мне твой ліст да Сашы Баханчыка. Вельмі абрадвалася, што змог пабыць на кангрэсе ў Кіеве. Сустрэча з дарагімі і блізкімі сэрцу людзьмі – гэта душэўны ўзлёт, духоўны адпачынак.

Напрыканцы года была ў Курапатах на жалобным мітынзе. Мікола П. з Надзеяй і маёй дачкой, і яшчэ адной сяброўкай дзяліліся ўражаннямі ад кангрэсу. Апавядаў, што Е. Кобец-Філімонава не зусім прыстойна паявяла сябе і сканфузіла там беларусаў. З твайго ліста да Сашы Баханчыка я таго не адчула. Мо яно насамрэч так і не было?

А чым займаецца Доўнар, так нічога і не чуваць пра яго. Як быццам бы ў Беларусі няма асацыяцыі незаконна рэпрэсаваных? А яго нават не запрасілі ў Кіеў?

Мікола перадаў Надзі дапамогу з фонда, калі я вярталася з Рыгі, мяне сустрэў унук у Менску і перадаў для мяне, Соні і Гардзейку.

Соня прыязджала да мяне, я ёй уручыла і яшчэ дала ад сябе дзесяць даляраў, каб яна змагла купіць куртку ўнуку, бо зусім раздзеты хлопчык ходзіць у школу. Гардзейку напісала, каб таксама прыехаў атрымаць, але пакуль не адказвае. Так што дзякуй табе ад нас.

Атрымала сёння “Наша слова”. Як балюча чытаць пра тое, што зрабіў лукашэнкаўскі рэферэндум са школамі і ВНУ, а найбольш балюча за наш народ, бо ні адзін народ у свеце не галасаваў супраць сваёй роднай мовы, супраць сваёй сымболікі. Але ці галасаваў ён, мо падтасавалі тыя бюлетэні?

Няхай блізкі нашым сэрцам вокліч “Жыве Беларусь!” гучыць і жыве ў вяках!

З глыбокай павагай – *Вера”*

…………………………………..

– А гэты ліст нельга чытаць спакойна – на вочы нагортваюцца слёзы. Думаю, у самага жорсткага чалавека, нават ката, уздрыгне сэрца ад болю. А мо і не ўздрыгне, мо я і памыляюся. Чытай, скажаш, што ты адчуваеш…

*(на мове арыгіналу)*

“Добры дзень, шаноўны спадар Рыгор Клімовіч!

Піша да Вас Яўгеня Навумчык (*Троцкая я, дзявочае прозвішча).*

Прыйміце мой паклон і маё шчырае дзякуй за Вашую кнігу “Канец Гарлагу”. Дзякуй Богу, што Вы ёсць, дай Бог Вам здароўя і поспехаў ва ўсіх Вашых дзеях і клопатах!

Я вельмі добра памятаю, як мы стаялі ў 6-м лагеры, узяўшыся за рукі, зрабіўшы жывы ланцуг вакол трох баракаў… І сёння мне сніцца той эпізод, як у нейкім сапсаваным фільме круціцца адно і тое ж – паўтараецца і паўтараецца. І чуваць аўтаматныя стрэлы, жудасныя крыкі маіх таварышак. Божа, якія трэба было нам мець сілы, каб вытрываць тое!..

На дахах тых баракаў, прымацаваныя да палак, пад ветрам, бы жывыя, гайдаліся-варушыліся чорныя, чырвоныя, і зноў чорныя сцягі. Іх бачыла неба, іх бачыў Бог, іх бачылі і мы. Мы не адрывалі ад іх позірку, быццам яны маглі выратаваць нас ад здзеку, адвесці ад нас бяду…

У тых трох бараках знаходзіліся жанчыны – хворыя і старэнькія, якія хадзіць не маглі па тэрыторыі, а не тое каб выконваць нейкую працу. Іх хітала ад ветру, яны былі як здані, як жывыя нябожчыкі. Не дай Божа каму зведаць такое!

Чырвонапагоннікі хадзілі вакол нас, каля нас, заглядвалі нам у вочы, каб пабачыць, які мы адчуваем страх перад імі. А мы не глядзелі на іх, мы глядзелі на дахі, дзе віталі нас сцягі – чорныя, чырвоныя і зноў чорныя.

А морды ў іх чырвоныя як і пагоны, як жар, бяры, курэц, і прыкурвай цыгарэту! – на тварах, не, на мордах, ухмылкі і грэблівыя ўсмешкі, ды мацюкі, ды “сукі паганыя”, “вражыны”, “падсцілкі”, ды… Чаго мы толькі ні наслухаліся ад іх, – так і хацелася кінуцца на катарага ды вочы кіпцюрамі павыдзіраць, плюнуць у іх крывавай слінай…

Яны – каты, мы ахвяры. Але мы ніяк не маглі дазволіць сябе прынізіць, сагнуць да зямлі. Гонар унутраны не дазваляў.

– И вы бунтовать вздумали? Заодно с ними, которые обречены… Почему молчите, все в сговоре?

Не памятаю, хто, але недзе побач злева нехта роспачна крыкнуў – мусіць, скончылася цярпенне, і хацелася выказаць нейкім чынам пратэст. Тады падтрымала іх крык і я, – што было сілы як не зараўла ад душэўнага болю і пакутаў. І тады нас падтрымалі ўсе астатнія – і паляцеў па жывым ланцугу наш агульны выдых і рык. Мы не крычалі, мы рыкалі як паранены звер, адчуваючы сваю пагібель, ведаючы, што ніякага іншага выйсця тут няма – наперадзе толькі смерць.

Памятаю, як адскочыў ад нечаканасці ад мяне шырокаморды адкормлены “бульдог” – так ён выглядаў у маіх вачах, – шырока раскрыў вочы і глядзеў на мяне, на нас. Ён, як і ўсе астатнія, не чакаў такога, нахмурыўся, не ведаў, як рэагаваць на агульны працяглы крык. Рык падобен быў ужо на сірэну, якая доўгі час не магла спыніцца. А мы ўжо, адчуўшы ў сабе нейкую ўнутраную сілу і пратэст, прызадраўшы галовы, каб не бачыць морды сваіх катаў, крычалі ў неба, крычалі да Госпада.

Гэта была ўжо нейкая працяглая малітва, кліч аб дапамозе, просьба да Вышняга, каб ён убачыў і пачуў нас, і нешта зрабіў. Малітва доўжылася і хвіліну, і дзве, і пяць… Да тае пары, пакуль мы не асіплі, пакуль не пакінулі нас сілы…

І тады ўжо запознена прагучэла каманда:

– Ма-аал-ча-ааать!

І для пэўнасці стрэлілў. Куды – мы не ведаем. Але мы не ўздрыгнулі, не збаяліся, ні ў кога з нас страху не было. Мы тым крыкам як бы пераканалі саміх сябе, што мы не баімся чырвонамордых чырвонаармейцаў-бандытаў і катаў.

Яны ўжо прыглядаліся да нас, як быццам мы былі зусім іншыя, не тыя, якіх яны бачылі перад гэтым. Іх позіркі былі ўжо скіраваныя на кожную з нас. Не ведаю, ці то яны выбіралі каго з нас каб забіць, альбо для сваіх начных уцехаў…

Нам ужо не хацелася жыць, бо ведалі, што наперадзе нас чакае толькі смерць. І яе ніхто адвесці не можа… Хіба толькі наш крык пачуў Усявышні.

Мне да так званай “свабоды” заставалася ўсяго паўтары гады. Магла б скарыцца, магла прасіць, каб злітаваліся нада мною, але кім я тады выглядала б перад сваімі таварышкамі?

Мяне асудзілі не за забойства, не за кражу, не за тое, што я растранжырыла дзяржаўныя грошы, – мяне асудзілі за любоў да маёй роднай Беларусі. Быў ВЛКСМ, але ж быў і Саюз беларускай моладзі. Не вайсковае нейкае фарміраванне, а суполка шчырых беларусаў, якія чыталі вершы беларускіх паэтаў, шанавалі нацыянальныя абрады, песні, замовы...

Маю “антысавецкую” дзейнасць ацанілі ў 10 год. Паражэнне ў правах, канфіскацыя і ўсё астатняе, што з гэтага выцякае.

Колькі, дарагі мой спадар Рыгорка, мы так стаялі ў тым ланцугу, не памятаю. Але неўзабаве каты з чырвонымі пагонамі на нашы галовы ўскінулі драбіны, канцы якіх прыставілі да дахаў баракаў і пакараскаліся туды… Са злосцю пазрывалі сцягі, парвалі іх на шматкі, шпурнулі ўніз.

А потым, як зноў ступілі на зямлю, выцягнулі аднекуль металічныя прэнты і пачалі імі сцябаць нас. Каму па галаве, каму па плячы, каму па

нагах… Па твары маёй сяброўкі пацякла раўчаком кроў, залілася праз момант і я, упала, знепрытомнеўшы, на зямлю.

Як яны акружылі нас і стаялі перад намі, я тых прэнтаў не бачыла, мусіць, яны трымалі іх у рукаве альбо прычапілі дзе за спіной. Нас білі як непаслухмянае быдла, як быдла, якое гналі на бойню. А яно іначай і не выглядала. Ды не ў баракі нас заганялі, як у стойла ці хлеў, а гналі ў тундру, праз прарэзаныя ў дроце дзіркі. То было агараджанне нашай зоны.

Не ведаю, дарагі мой Рыгорка, чулі вы той наш крык ці не, але я думаю, што чулі не толькі вы, ня толькі людзі ў Нарыльску, а і ўся змярцвелая тундра…

Я праз сілу паспрабавала азірнуцца, каб пакінуць у памяці тое крывавае відовішча і пабоішча. На зямлі ляжалі акрываўленыя жанчыны, махалі нам рукой, каб мы дапамаглі стаць ім на ногі. Але нікому не было дазволена вярнуцца назад.

Ну а як далей было ў тундры, Вы пра тое ведаеце, – у Вашым аповедзе ўсё да драбніц праўда. І я гатова падпісацца пад кожным радочкам Вашае кнігі, то і ёсць праўда пра савецка-сталінскі лад, быдлячы лад, якіператвараў народ у быдла.

Мне загадана было ісці наперад, і я трапіла зноў у свой лагер.

Людзей, прозвішчы якіх вы ўспамінаеце, ведаю. Помню твары іх і галасы, позіркі скрушныя і горычныя – Юлю Сафрановіч, Ганну Мазепу, Ірэну Марцінкутэ, Асту Тафры.

А з 5-га лагера – Пецю Хаткевіча, беларуса, памёр у Нарыльску, Саньку Адамовіча, беларуса, з 4-га лагера добра запомніла Косцю Казака, Лёню Каваленку, Колю Ждановіча – усе беларусы.

Яшчэ раз шчырае, шчырае Вам дзякуй, што пакуты Вашыя, і ўсё, што Вам давялося перажыць, не засталіся без следу, – што Бог даў Вам добрую памяць і магчымасць дажыць да сённяшніх дзён… Я таксама спрабую пісаць, нешта ўспамінаецца, але шмат прозвішчаў пазабывала. Асабліва не магу сабе дараваць, калі сядзела ў турме, у Вілейцы, там сядзеў наш сябра (у той час добра памятала яго імя і прозвішча, і думала, што век буду памятаць, але…). Ён быў хворы, і сказаў нам, што ён дакументальна даказаў КДБ, што СБМ ніякага дачынення да немцаў не меў. Прасіў, каб на яго словы ссылаліся, калі будзе заходзіць гаворка з кім пра гэтую суполку.

Больш з ім, на вялікі жаль, не сустрэліся.

Дай Бог Вам здароўя і ўсяго самага добрага ў Вашым творчым і сямейным жыцці.

З павагай да Вас *Яўгеня Навумчык. Адрас мой: Паставы, вул. П.Марозава, 33а.*

…………………………………………………………………….



І з рыднэсенькай Украіны прыходзяць да мяне лісты.

“Шановний друже Григорий!

Щиро дякую за відповідь в мій адрес, і пробачте, що не зразу відписую. Робота, робота і робота…

*(далей – пераклады мае. А.Б.)*

У нас шмат перапахаванняў нашых сяброў, якія былі расстраляныя і выкінутыя ў яры ды балоты. Шмат каго з іх знайшлі, а багата яшчэ не адшукалі, але пошукі працягваем. 8-га жніўня мы адзначалі 40-годдзе Нарыльскага, Варкуцінскага, Кінгірскага і іншых лагераў, дзе адбываліся страйкі. Шмат было народу. Я выступала і апавядала пра 6-ю зону. Усё тое выклікала вялікае ўзрушэнне ў людзей.

Пра перапіску нашых суполак яшчэ не казала, усё бягом ды подбегам, усе школы аббегала, але скажу.

24-га жніўня святкавалі 2-ю гадавіну незалежнасці нашай Украіны. Ох як было здарава!

А цяпер прадоўжу асноўную нашую тэму. Я пісала Вам, калі мяне заарыштавала паседжанне гарнізонцаў і вадзілі па вёсках – Бугліў, Юлінцы і маім сялом Білазіркою, – пад штыкамі, з сабакамі.

Не даведаўшыся ад мяне нічога, накіравалі ў раён Ланіўцы для следства. Следства было страшным, не давядзі, Божа! Яны, слугі саветаў, хацелі вырваць з мяне сакрэты і тайны нашай падпольнай працы. Але я не мела на тое ніякага права. Асабліва яны звярэлі, калі чулі ад мяне адказ: “Не ведаю…” Нічога і нікога я не выдала…

Тады пачыналася страшнае збіццё і здзекі, да тае пары, пакуль я не страчвала прытомнасць, падала, знясіленая, на падлогу.

На наступныя допыты ісці сама я ўжо не магла, мяне амаль цягнулі па падлозе, узяўшы за рукі.

Але тое ўжо было в 1946 годзе. Шмат нашых сяброў і сябровак збілі, арыштавалі перад гэтым, так што следства цягнулася дзесяць дзён.

Вёў следства Белацелаў, яго я ніколі не забуду, сабака быў са злюшчай пароды. Неўзабаве мяне вывезлі ў турму горада Чарткіў. Судзіў мяне вайсковы трыбунал 3-га траўня таго ж года. Праз два тыдні адправілі мяне этапам у Харкаў на перасылку. От там я даведалася што такое “вор”, “блатны”, “урка” і пачула той страшны жаргон, які зроду не чула і не бачыла тых татуіровак, і такіх дзікіх людзей.

Гэтаксама не ведала да гэтага, што дзесьці на свеце ёсць клапы, якія мяне няшчадна кусалі. Там мы іх збіралі жменямі і цэлымі начамі не спалі.

Я зразумела, што пасля следства будуць іншыя, яшчэ горшыя пакуты. Так яно і адбылося.

У першую чаргу сутычкі з уркамі. Пасялілі нас на вялікі, доўгі прыдашак. Каля акна знайшлі месца уркі, а нам прыйшлося абраць месца

каля парога. Калі прыходзіла ноч, яны нападалі на нас. Усе крычалі: "Хто у вас бандэрша?" Ну і прышлося мне стать "бандэршаю" і абараняць сваіх сябровак і мацярок ад той падлоты.

З Харкава да Краснаярска прывезлі нас пад канец ліпеня. Сталі грузіць на баржу. Баржа старая, брудная, без асвятлення і перагароджана на тры адсекі. Адна частка – нашыя палітвязні мужчыны, другая – крымінальнікі-злодзеі ("воры"), а ў самым канцы – мы, катаржанкі і іншыя.

Перагародкі паміж намі дашчатыя. Праплылі мы дзень адносна спакойна. А на наступны дзень бандзюгі паламалі дошкі і пранікл да нас. Пачалося страхоцце. Крыкі дзяўчат, святло вымкнулі, у трумах цёмна, есці не даюць… Вады таксама не даюць. А канвой заадно з блатнымі. Зацягваюць да сябе дзяўчат, забіраюць іх рэчы і канвой тое на супынках абменьвае на гарэлку… У трумах – Садома і Гамора… Жах…

Што ж рабіць, якое выйсце шукаць і дзе?

Мы, катаржанкі, пасяліліся на самым носе трума. Трошкі прабівалася праз шчыліны святло, і мы ўбачылі, што пад намі, у падлозе надарваныя дошкі. Мы надарвалі іх яшчэ больш, і ў пустэчы пабачылі нейкія кавалкі палак ці дручкоў. Мы дасталі тыя дручкі, а туды схавалі свае рэчы, нейкія дробязі, а тыя дручкі ці дрыны сталі нашай зброяй – мы вырашылі імі абараняцца ад нахабнікаў. Занялі пазіцыю абароны.

Старэйшых жанчын і малалетак (былі, Рыгорка, у нас і такія) мы паклалі ў тым трохкутніку баржавага носа, а мы самі, баявы авангард, з палкамі і даўбавешкамі сталі паўкругам і чакалі ворагаў, самых сапраўдных ворагаў, якія здольны былі на ўсё – забіваць, гвалтаваць, калечыць… Намі кіраваў адчай і безвыходнасць, злосць і жаданне паказаць, хто мы ёсць на самай справе. На ахоўнікаў ніякага спадзявання не было, яны былі з бандытамі ў хаўрусе, дазвалялі ім рабіць з намі ўсё, што заўгодна.

Вораг, так бы мовіць, не прымусіў сябе чакаць. Бандыты як чорныя прывіды ці здані паўзлі ўжо да нас. Мы, узняўшы крык адчаю і злосці кінуліся ў абарону. Білі іх тымі ж дрынамі, хто каструлямі і што было пад рукамі, адчайна бараніліся ад свалаты, – і неяк першую атаку адбілі.

"Жукі" адступілі, але мы не ведалі, ці надоўга тое. Разумелі, што яны наступным разам прыпаўзуць да нас з большай хеўрай – і тады нам канец. Ведалі, што яны не сцерпяць такой абразы, праявяць яшчэ большую жорсткасць, і могуць не пакінуць нас нават у жывых, – ім тое нічога не каштавала. І нічога ім за тое не будзе.

Я, як бандэрша ці бандэраўка, ды яшчэ з Харкаўскага гарышча, не з гліны злепленая, а бацькамі народжаная – упартая ды смелая, – вырашыла не здаваць пазіцый.

– Што рабіць будзем, мае родненькія? – пытаюся ў таварышак. – Раз'юшылі мы іх сваё настырнасцю, як асінае гняздо. Але гэтага мала.



– Прасіць помачы, – гаворыць Зінка-беларусачка, – іначай…

– У каго яе прасіць? – роспачна пытаюся.

– У нашых сяброў, што з намі едуць. Яны ж не ведаюць пра нашае становішча – у процілеглым канцы баржы знаходзяцца.

План выспеў знянацку. Але каб дабрацца да нашых хлопцаў, трэба неяк мінуць бандыцкае логава, але як? Я і Зінка пераапранаемся ў адзенне уркаў – ватныя штаны, шапка, куфайка… Ідзем ужо не крадучыся, каб не выдаць сябе, але і не глядзім па баках. У бандытаў былі свечкі, такім чынам яны асвятлялі сабе жытло, і тое святло не высвечвала нас, а мы краліся ціха і прасцярожліва.

Дарога нам падалася доўгай-доўгай, мо з кіламетр, але мы хацелі здзейсніць сваю задуму чаго б нам тое ні каштавала.

Дзякуй Богу, пранесла, неяк дапнулі да другога канца баржы.

Нашыя сябры былі таксама аддзелены ад усіх дошкамі, але ў шчыліны мы ўбачылі, што ў іх цьмяна цадзілася святло. У іх было спакойна, размаўлялі на паўголаса, пілі з кубкаў нейкі ўзвар – ці то гарбату, ці проста ваду.

Я падыйшла да дошак, са шчылінаў якіх не прабівалася святло. Сяброўка стала побач, сачыла, каб мы не выклікалі падазрэння і нас не выкрылі. Пастукала ў дошкі. Яны замоўклі. А потым нехта спытаў:

– Хто там?

– То мы, хлопчыкі, з жаночага адсеку. Тайна пракраліся да вас. Дапамогі просім. Не можам адбіцца ад крымінальнікаў.

– Нашы дзяўчаты прыйшлі да нас? – здзівіліся яны і не маглі паверыць у тое. – І як вам тое ўдалося, родненькія вы нашыя сяброўкі?

Адзін ласкавы іх голас усяліў у нас надзею, што яны памогуць нам, не пакінуць у бядзе. Нас даўно так не называлі.

Я чула, як яны збіліся ў гурток, каб прыняць нейкае рашэнне. Усё вырашалася агулам, узважыўшы ўсё, каб не дапусціць якой памылкі. Раіліся яны не доўга, мо колькі хвілінаў усяго, а для нас тыя хвіліны доўжыліся як не гадзінамі.

– Слухай, Стасюк, – напаўголаса нарэшце звярнуўся да мяне нейкі хлопец, – мы паможам вам адбіцца ад зграі бандытаў. Асцярожна вяртайцеся да сваіх, чакайце, мы ў хуткім часе будзем у вас.

– Дзякуем, хлопчыкі, без вас мы загінем. Ахова ім не замінае расправіцца з намі, яны ў хаўрусе.

Мы не ведалі, дзень быў на двары ці ноч. Краліся нагінкам адваротным шляхам, баючыся зачапіцца за што-небудзь і такім чынам выдаць сябе. Неяк жа прадраліся праз цемру, дапялі да сваіх. Стомлена апусціліся на падлогу.

– Ну, што там, пабачыліся? – затоена пыталіся ў нас сяброўкі.

– Пабачыліся, абяцалі прыйсці.

Але трывога не пакідала нас – "жукі" могуць прыпаўзці ў любы нечаканы момант, ды не пяць-шэсць, а цэлай плоймай. Таму кожная хвіліна для нас была пакутамі невядомасці, мы чакалі страшнай смерці. Хлопцы маглі прамарудзіць, затрымацца, і тады нам…

Гулка білася сэрца, ад хвалявання калолі іголкі ў скроні, дрыжэла ўсё цела.

І сапраўды – нашыя абаронцы прыйшлі не адразу. Не ведаю, што таму было прычынай. З'явіліся яны толькі праз некалькі гадзінаў – мо праз чатыры, мо пяць… А нам тое здавалася вечнасцю.

Мы пачулі, як пачалі трашчаць дошкі, пачулі галасы нашых выратавальнікаў, – і яны з'явіліся перад намі. "Ура! Мы выратаваны! – хацелася крычаць нам, але той крык быў маўклівы, радасны. – Выратаваны!"

Мы абдымалі іх і цалавалі, плакалі ад радасці, дзякавалі за іх смеласць, за адвагу.

А потым перасталі хавацца. Голасна пачалі крычаць і патрабаваць, каб да нас выйшаў канвой.

Праз нейкі час зверху апусцілася драбіна. Па ёй спусціліся адзін за адным канваіры.

– Патрабуем даць святло! – заявіў старшы з хлопцаў.

– Вады дайце нам, вады! – закрычала і я. – Быдла і тое пояць вадой, а мы людзі! У труме няма чым дыхаць, жанчыны самлелі.

– Пакарміце жанчын! Яны галодныя!

На дзіва, канвой паслухаўся нашых збаўцаў, маўкліва выконваў іх патрабаванні. Нам прынеслі вады. А потым і баланду з рыбы.

Адчынілі люк, і тады ж хлынула свежае паветра. Мы ўдыхнулі напоўніцу яго, аж закружалася галава. Мы былі выратаваны.

Больш таго – нашыя хлопцы вылавілі ўсіх "жукоў", адабралі ў іх нашыя рэчы, якія яшчэ не паспелі абмяняць на самагон. А іх саміх пасадзілі ў невялікі карцэр, збіўшы яго з дошак, замкнулі на калодку. Хлопцы выглядалі ў нашых вачах няйнакш як героямі, героямі-вызваліцелямі.

Дзяўчаты радаваліся, што вярнулі ім апранахі, бо ведалі, што ў халодныя ночы без іх немагчыма абысціся.

…Праз нейкі час мы даплылі да Дудзінцаў. За гэты час ніхто не асмельваўся да нас прыставаць – як ахоўнікі, так і "жукі". І тое радавала. І ў такіх умовах, аказваецца, можна перамагаць нечысць.

У Дудзінцы мы перш-наперш расказалі начальнікам, што з намі было падчас знаходжання ў баржы, як паводзілі сябе крымінальнікі і іх памагатыя – ахоўнікі.

– Вінаватыя ў тых здзеках павінны быць пакараны.

– Разбярэмся, – хмыкнуў у вусы вайсковец, – а вас накіроўваем на КТР – на 102-гі кіламетр: будзеце будаваць аэрадром.



А гэта – 6-я зона. 102-гі кіламетр! Жах, жах, жах!..

Уяўляеш, дарагі мой Рыгорка, – пасярод тундры стаіць вялізная бочка. Печ. З вечара яна яшчэ неяк грэе, а пад раніцу робіцца ледзяной. Удаецца неяк ад стомы заснуць, а падняцца нельга – косы прымярзаюць да палаткі. Трэба вялікія намаганні, каб адарваць іх ад тканіны.

Не было святла, як і не было вады. Мы яе здабывалі са снегу – растоплівалі ў каструлях. А як пачынаўся буран, мяцеліца, завіруха – не выйсці вонкі нават па патрэбе. А пасля той завірухі снег рабіўся чарнейшы за зямлю. І з таго снегу нам гатавалі нейкую ежу.

А як жанчыне памыцца, прывесці сябе хоць з большага ў парадак? Пра асабістую гігіену і гамону не было. А ў нас, жанчын, былі тыя ж дні, калі... Ні ваты не давалі, нават анучак якіх... Пра тое ніхто з начальства не думаў, і не прыслухоўваўся да нашых просьбаў. Таму кожны з нас здабываў сабе ваду з таго чорнага снегу, мыў бялізну і сам мыўся. Скажы, дарагі мой, ці магла выжыць жанчына ў тых нечалавечых умовах?

Скажы мне яшчэ, Рыгор, што думала ў гэты час дзяржава? Ці думала яна пра нас? Мы хто для яе? Адкіды грамадства? Ніхто і нішто? Дзе клопат пра сваіх людзей, краіна Саветаў?! А камуністычная партыя, якая прапаведвала гуманізм і любоў для людзей, да кожнага чалавека? Дык хто ж яна для нас – родная краіна? Не бацька і не маці, а проста Кат. Катаванне і прыніжэнне жанчын, якія павінны нараджаць для краіны сыноў і дачок. Чаму забыліся пра нас і выкінулі ў нябыт, на сметнік, лічы? Не магу я гэтага зразумець. Зразумець можна, калі забойцу садзяць за краты і адпраўляюць на катаржныя работы, а мы? Мы што зрабілі? Толькі і віны ў нас, што мы заявілі, што любім сваю Радзіму. Хіба ж гэта грэх, хіба ж гэта парушэнне закону, га, Рыгорка, мой дарагі?

Святло мы здабывалі сабе самі. Рабілі каганцы, залівалі ў іх машыннае масла, устаўлялі кнот, – і гары лямпачка Ільіча! Мы ад той копаці ператвараліся ў неграў, і амаль не пазнавалі адна адну. Мусіць, і лёгкія нашы ператвараліся ў неграў.

Працавалі на будаўніцтве аэрадрому. Як будавалі? Кайлілі гранітную скалу і вагонкамі яе адвозілі на вялікую адлегласць, скідалі ў роў. Тут не кожны мужчына вытрымае такую нагрузку, а мы… Праклён мы шлем вам, кіраўнікі партыі і ўрада, сталіністы і эмгэбісты, следчыя і суддзі, ахоўнікі і начальнікі канцэнтрацыйных сталінскіх лагераў, – ганьба вам і праклён!

З намі працавалі і мужчыны – пераважна з Прыбалтыкі. Яны не выглядалі мужчынамі, то былі жывыя трупы, здані. На нашых вачах яны ператвараліся у скульптуры – лёд скоўваў іх целы і яны ўжо рабіліся ледзянымі. На тое было нельга глядзець. Я такога ніколі не бачыла. Стаіць чалавек з кайлом у руках ці з ўзнятай галавой, а дакранішся да яго, – ледзяны труп. Так і падае з растапыранымі рукамі і з кайлом у руках.

Ды і не толькі мужчыны. Падыходжу да Аксаны Прыдбайла, якая чамусьці перастала працаваць, задумалася, у неба глядзіць.

– Аксанка, што выглядваеш у небе? Мо Госпада там бачыш, га?

Таўханула лёгка за локаць, – а яна і ўпала на правы бок з прызадратай галавой. Я закрычала ад страху і нечаканасці, мову адняло. Да такога нельга прывыкнуць, чалавек прапускае ўсё праз сваё сэрца, а на сэрцы шраны і боль, мы ж жывыя людзі і Бог нам даў душу.

Але звыкаемся, ужо не так рэагуем на смерць сваіх таварышак і сяброўак. Паплачам, памолімся і адпраўляем у апошні шлях…

Дзіўна, але смерць не косіць нас як маладую атаву, дае яшчэ нейкі шанец на выжыванне. З пакутамі, але прадоўжвае нашае існаванне. Не выжыванне нават, а існаванне. Бо мы знаходзіліся паміж жыццём і смерцю, і невядома ў якое імгненне мы пяройдзем з аднаго стану і другі.

Дык жа мала ім, катам, таго, што мы ледзьве ліпім на зямлі, новую гнюснасць прыдумалі, каб нас звесці са свету. Калі да нас у той баржы імкнуліся гвалтам пранікнуць “жукі”, то тут ужо не жукі і караеды, а сапраўдныя монстры, пачвары. Іх падсылалі да нас начальнікі і ахоўнікі. Розных электрыкаў і вадзіцеляў, майстроў ды брыгадзіраў… І ўсе яны як адзін былі венерычна хворыя… Мэта была адна – знішчыць нас як людзей такім чынам, каб “надзяліць” гэтай хваробай дзяўчат.

Пад канец 1946 года ўжо болей як 50 жанчын сталі венерычна хворымі. Нашых з захаду было толькі шэсць. Мы не кідаліся на іх прысмакі і віно, шакалады ды пячэнне, – жылі на сваёй пайцы і чакалі… Чаго чакалі, самі не ведаем, але чакалі, спадзяваліся і верылі.

…Пане Григорій, вибачте, що не так, але слёзы на очах, вже очи не ті і руки старі. Дякую за знимку і за все. В продовженні опішу наш страйк. Допобаченне.

*Марія*

……………………………………………….

Альбо яшчэ лісты – з роднай Беларусі. З Гарадзеі.

“

*(на мове арыгінала)*

*29.XI.98 г.*

Шаноўны Грыша, добрага дня!

Як думкі, так і душа поўныя жалю, смутку і болю, што адыходзяць заўчасна з жыцця лепшыя дочкі і сыны нашай Радзімы. Мне горш балюча, як усім, што ў гэты час не была дома і не змагла развітацца з Жэняй Шостак. Жэня-Жэнечка, любая мая, мой анёл-ахоўнік, родная душа!..

Я ўдзячна лёсу, як ні  дзіўна тое гучыць, што ён закінуў мяне ў Кенгірскі савецкі лагер палітзняволеных у 1949 годзе, бо я там сустрэла і набыла сабе анёла-ахоўніка. Думаю, што і ты ў сваім зняволенні знаходзіш нейкія дадатныя рысы і з’явы. Дык вось…



Калі наш этап падагналі (а нас гналі як быдла, падганяючы яшчэ і металічнымі бізунамі) да брамкі, то ўбачыла, як па той бок яе, стаялі жанчыны. Яны чакалі ў новым этапе сустрэць сваіх зямлячак.

Не ведаю чаму, але мы позіркамі ўпіліся адна ў адну, як звязаліся духоўна і нават фізічна, – дзве жанчыны ўбачылі адна ў адной нешта сваё, роднаснае, агульнае.

– Хто з Беларусі? – выгукнула яна першай да ўсіх, але не адрывала позірку ад мяне.

– Я! – крычу з усяе сілы, нібы баючыся, што яна не пачуе мяне.

Як толькі мы пераступілі парог ці мяжу лагера, яна адразу ж кінулася да мяне. Не пытаючыся ні імя, і адкуль я, сціснула ў сваіх абдымках. То былі абдымкі сястры ці дачкі, не ведаю, але я пачула, як б’ецца радасна яе сэрца. Так білася ўсхваляваna і маё.

– Ой, як я радая, што сустрэла зямлячку! Нават шчаслівая.

Упершыню за адзінаццаць месяцаў зняволення ў турме я пачула нашую родненькую, дарагую нашую беларускую мову! Дзякуй Табе, Божа, за гэта, што Ты паслаў такую радасць маёй душы.

Яна, прыгожая і цудоўная дзяўчынка, прытулілася галавой да маёй галавы. Яна плакала ад радасці і горычы, усклікнула-спыталася:

– Божачка, а Вас за што кінулі ў гэтае савецкае пекла ды яшчэ з немаўлём на руках?!

– Не ведаю, за што, даражэнькая. Не здрадзіла Радзіме, нікога не забіла. А віна мая толькі ў тым, што любоўю сваёй шчырай шанавала і люблю Радзіму.

А Жэнька, не стрымліваючы слёз, мне ў адказ:

– Дык і я ж за тое самае…

І з тае хвіліны зрадніліся нашыя сэрцы і душы, мы сталі як адно цэлае, і да апошняга імгнення яе жыцця былі разам.

Я адбывала каранцін у нейкай баковачцы лазні, якая была накшталт сабачай будкі, адно што можна было выпрастацца ў поўны рост. Там было вельмі няўтульна, сырэча, ды нейкія насякомыя накінуліся на маё змэнчанае цела. Ды голад у дадатак, ды невядомасць наперадзе…

Я там павінна была знаходзіцца амаль месяц, а дакладней, дваццаць адзін дзень. Раз галоднай была я, то і галадала маё дзіцятка, плакала пастаянна, прасіла цыцкі. А з грудзей амаль нічога не выцякала. Плакала дзіцё, а следам за ёю і я – ад безвыходнасці, ад голаду, ад роспачы…

Але штодня мяне праведвала мая мілая Жэнечка. Яна працавала на цагельным заводзе, амаль дванаццаць гадзінаў была на змене. І пасля нечалавечай працы, стомленая і галодная, знаходзіла сілы, каб праведаць мяне.

Божа, за што так караеш нас, жанчын? Хіба ж мы ў чым-небудзь вінаватыя? Чаму прыгажосць Жэнькі ператвараецца ў нешта іншае, знямоžаная і без сілаў яна сядзіць побач са мной? Кладзе перада мною кавалачак хлеба, стараецца ўсміхацца. Яна адарвала яго ад свайго страўніка, падзялілася са мною. Ды і не толькі са мною, а і з тым, хто нарадзіўся – з маёй маленькай дачушкай.

– А сёння я табе салодзенькага прынесла, – радасна ўсміхалася мая сяброўка, прыйшоўшы позна зноў да мяне, і паклала на табурэт драбочак цукру. – Сёння да пайкі нам цукру дадалі, норму перавыканалі.

Я ведала, што яна хлусіць, ніякія нормы яны не перавыконвалі, і звыш паложанага пайка ім нічога даць не маглі. Дзяржава яшчэ ў дадатак і скнарнай была для нас, чужынкай, мачыхай, хаця і не ўсе мачыхі злымі ды жаднечамі былі, не ўсе…

– Не вазьму, – запярэчыла я і заплакала, – сама вунь як сопуха выглядаеш, табе болей трэба, арганізм малады, ён ежы патрабуе…

– Ой, што ты, Верачка, я і пад'етая сёння, і не натамілася, – зноў пачынае падманьваць мяне мая сяброўка, – а для тваёй дачушкі акурат і трэба салодзенькае. Толькі ты драбочак у вадзе размяшай, вось і будзе падмога для тваіх грудзей, малачка болей будзе дзіцёнку…

За шматслоўнасцю Жэнька настрой свой хавае, не хоча расстрайваць мяне, вясёлай і бесклапотнай прыкідваецца.

А іншы раз прыносіла мне і мыла, невядома дзе і раздабыла яго.

– Пялюшкі пасціраеш, каб дзіцятка ў чыстым спала.

Рыгорка, дарагі мой, такое ніколі не забываецца і забыцца не можа. Ты казаў, што збіраешся пісаць другую кнігу – як савецкія жанчыны знаходзіліся ў сталінскіх лагерах, як змагаліся за сваю долю. Вось табе і мой прыклад, як і сотні і тысячы іншых прыкладаў, як маці-радзіма шанавала сваіх мацярок і дачок. Апішы, Рыгорка, апішы ўсё, да драбніц напішы. Няхай гэта дакор і праклён будзе СССР – самай жудаснай краіне ў свеце, самай крывавай, бо на крыві яна аб'яднала ўсе народы, ды не аб'яднала, а зваявала ўсіх, у адно ярмо загнала, утварыўшы прымусам быццам бы брацкія рэспублікі і народы…

Гэтыя душэўныя раны на сэрцы і душы ніколі не забываюцца. Ды ці помніць толькі пра тое наша краіна?

20 лістапада не стала самай лепшай маёй сяброўкі...

З нашага сяброўства былі толькі – Надзя, Соня Дземянчук, Маня Азарка ды Пеця Рашэтнік (з Баранавічаў). Усе яе ведалі ў Навагрудку, як значную Асобу з вялікай літары, і таму праводзілі яе ў апошні шлях з вялікім жалем і душэўным болем. Хацела дадаць, што Айчына развіталася з годнай дачкой, ды неяк яно і няпраўда, – навошта кінула тая Айчына на такія пакуты. Але мы ведаем, што ёсць другая Айчына – Беларуская Беларусь, якая, як магла, давала ёй сілы і моцы. Яна не здраджвала ёй, як і родная



зямля, якая прытуліла яе да сябе, а ў нашых сэрцах няхай жыве вечная памяць пра яе!

Дасылаю, дарагі Рыгор, табе дадзеныя на дваіх чалавек, а выбар рабі сам. Толькі няма году нараджэння. Я тэлефаную Марыі Б., а тагды ўжо Табе. Па маёй ведамасці амаль усе атрымалі, чакаю толькі Шайбак з Пінску, ды яшчэ дваіх асобаў.

Адносна Пярловіча. Не надта добрыя адгукі ў нашым сяброўстве пра яго. Рамановіч паехаў у Польшчу на аперацыю вачэй. Банчык усё штосьці цягне з аперацыяй, выгляд у яго дрэнны, цяжкая задышка.

Я выпіла пляшку бальзама Бітнера, якую сын прывёз. Быццам бы палепшала, быццам бы памаладзела на гадоў дзесяць.

Астатняе ўсё бяз зменаў – як у палітыцы, так і ў эканоміцы. Дарагвізна, пустыя паліцы. Нам вельмі далёка яшчэ да таго, што я бачыла ў Рызе. Мы яшчэ не прыйшлі да Беларусі. Я зноў была на святкаванні іх Незалежнасці. Са слязьмі на вачах ды з глыбокім душэўным болем я ўспрыняла іх свята. Іх свабода, іх радасць і воклічы, салют, звон усіх царкоўных званоў яшчэ да сёння ў маіх вушах і сэрцы. А вочы не забудуць шчаслівыя твары людзей. Дай Божа людзям радасць на ўсе вякі, можа калі і ў нас тое будзе! Іхны Прэзідэнт хадзіў свабодна між людзей, абдымаўся з імі, фатаграфаваўся, – не баяўся, як наш сёння.

Дапамажы, Божа, нам дажыць да такога свята!

Жадаю табе, дарагі мой чалавек, здароўя і яшчэ раз здароўя!

Вітаю шчыра ўсіх сяброў Тваіх!

Жыве Беларусь!

З павагай – *Вера Касновіч, – Гарадзея, Нясвіжчына.*

………………………………………



З паштовай скрынкі дастаў чарговы ліст, які, як і ўсе, усхваляваў і абрадваў мяне.

«Добрий день, дорогий друже по боротьбі!

Піша табе Марыя Ніч (Страханюк) з вёскі Загорошча, Ровеншчына. *Яна ж – і Марыя Нагорная, якую ты расшукваў.*

Дзякуй Богу, што ты ёсць Рыгор, мой дарагі!

На кангрэсе я была зачаравана тваім выступам. Цудоўна! Непаўторна! Спадзяюся, веру, што ты не змяніўся духоўна, а ўпарта і настойліва працуеш і ідзеш да намечанай мэты – незалежнасці, дзяржаўнасці бацькаўшчыны Беларусі і Украіны. Спаміж намі павінна быць адзінства, дружба, ісці наперад адзіным фронтам. Наш кліч "Свабода народам і чалавецтву!" мусіць згуртаваць нас у адно імкненне, бо калі іначай, то прыйдзецца нам цяжка.

Я веру, што тое зразумеюць вашы і нашыя людзі. Сёння нам дужа цяжка.

…………………………………………

Ты прасіў, каб я напісала свае ўспаміны пра Нарыльскае паўстанне. Зраблю тое, толькі як вальней буду ад працы, – зімой.

Толькі ты пішаш, што я адна ўзначальвала паўстанне ў 6-м жаночым аддзяленні Гарлагу. Рыгор, баюся браць я на сябе такую адказнасць, – усе мы ўзначальвалі і ўсе паўсталі. Дзякую толькі табе, што прызнаеш мяне як актыўную ўдзельніцу таго закалоту!

Я прачытала брашуру Яўгена Грыцяка. У мяне трошкі іншы погляд на тыя падзеі. Я ўжо сустракалася з нашымі жанчынамі – удзельніцамі Нарыльскага паўстання. Мы вырашылі тыя падзеі інакш прадставіць, будуць успаміны кожнага чалавека. Яны могуць трохі розніцца, але што яны прывялі да агульнага выніку, – то праўда.

Напрыклад: слова даць Ніч, Мазекі, Новаль і іншым, якія яшчэ жывуць сярод нас. Пажадана, каб было як мага больш людзей. Кожны з іх сведка, кожны з іх – абвінаваўца, і мы будзем судзіць сталінскіх катаў і іх нашчадкаў сваім, народным судом. Такія злачынствы супраць чалавецтва і людзей даўнасці не падлягаюцьою І на тым свеце яны адкажуць за свае дзеянні перад Богам, – адбіраць жыцці ў нас Вышні іх не ўпаўнаважваў.

Рыгор, ці Ты не ведаеш што пра Эсту – эстонку, ці жывая яна, дзе яна пражывае? Мо чуў ад каго – сніцца яна мне, добра сніцца, харошы чалавек яна, смелы і сумленны.

Сёння 10 жніўня. На 15-е я планую быць у Бродах, дзе будуць асвячаць помнік загінулым “Дывізія Галічына”. Там сустрэну ўсіх сваіх па лагеры зняволення. Раскажу ім, як сустрэліся з табой. І перадам ім вітанне ад Цябе.

Да пабачання, дарагі дружа! Жадаю творчых поспехаў і здароўя.

*Марыя Страханюк-Ніч-Нагорная.*

.............................

…Шановний наш Григорій!

Дякую Вам за лист, за открытку и за хороші (як завжди) слова, котрі Ви мени пишете. Вірші Ваші заслуговують уваги, за що щиро дякую.

……………………………………

Калі ў нас было свята 40-годдзя паўстання ў ГУЛАГу, то я выступала і казала, як яно ўсё адбывалася ў 6-зоне, – выступ мой запісаны на магнітную стужку, а мо калі і будзе надрукаваны.

Мне здаецца, што я Вам пісала, бо мне прыходзілася шмат дзе пра тое расказваць. Вы прасілі мяне напісаць свой погляд пра страйкі ў лагерах. Я не ведаю, хто і як Вам піша пра тое, а я не магу напісаць нічога такога негатыўнага пра тыя страйкі. Калі ў 6-й зоне катаржанкі паднялі дзяўчат на барацьбу з рэжымам, то ІТЛ не думалі яшчэ, каб страйкаваць.



То ўжо тады, як мы сабралі наш невялічкі камітэт катаржанак, ды абмяркоўвалі тое пытанне, то аказалася, што мы яшчэ не гатовы былі тое рабіць. У наш камітэт уваходзілі – Марыя Луцак з Львова, Насця Кватыра з Валыні, Марыйка Гунько з-пад Львова, Ванда Гарчынська з Копічынец і я.

Мы тады паставілі адно галоўнае пытанне – будзем страйкаваць ці не. Пытанне вынеслі на галасаванне.

Усе прагаласавалі “за”.

– У мяне ёсць папраўка, – прамовіла я для ўсіх. – Гэта добра, што мы адзінадушныя ў сваім рашэнні, але нам не хапае адной дэталі. Каб упэўніцца ў будучым поспеху, нам неабходна правесці агітацыю ў зоне ІТЛ.

– Згодны. Папраўка вельмі слушная. Хто пойдзе агітаваць?

Я і Марыйка Луцак паднялі рукі – далі згоду.

Сярод ночы, выламаўшы трухлявыя дошкі ў плоце, які нас адгароджваў ад іншых, у дзірку пралезлі і апынуліся у зоне ІТЛ.

– Ты ідзі ў гэты барак, – прапанавала я сяброўцы, – а я ў суседні.

Нашаму прыходу здзівіліся, але выслухалі з цікавасцю. Я патлумачыла ім:

– Дзяўчаты! Заўтра катаржанкі не выйдуць на працу. Трэба вашая падтрымка. Як вы?

Яны параіліся між сабой і старэйшая сярод іх адказала:

– Ульяна, раз вы не выходзіце на працу, то і мы не выйдзем. Падтрымліваем вас.

– Дзякуй вам. Будзем трымацца разам.

Толькі пад раніцу вярнуліся мы з Марыйкаю ў свой барак. Нас чакалі з трывогай і нецярпеннем.

– Дамовіліся! – абвясціла я ўсім.

Раніцай прыйшоў да нас канвой, а мы не падымаемся з нараў. Маўчым.

– Пад’ём! Усім на працу! – бачачы такое, гучна і са злом абвясціў адзін з канвіраў.

Мы маўчым. Зноў гучыць каманда ісці на працу.

І тады мы амаль адначасова крыкнулі:

– На работу мы не ідзем!

Не выйшлі і ІТЛ – стрымалі сваё абяцанне.

А далей, дарагі дружа, Вы ведаеце, як разгортваліся падзеі.

Мы з дапамогай дзяўчат ІТЛ паваліліі драўляную агароджу і з крыкам “Слава!” кінуліся ў абдымкі сваіх сясцёр з ІТЛ. То ўжо была наша агульная зона і працавалі ўсе разам.

“

*М. Стрий 17.07. 1991 р*

…За фатаграфію дзякую, гэта дарагая памяць пра тыя страшныя гады нашага сумеснага знаходжання ў тым пекле. Мы з табой пазнаёміліся ні ў нейкім паўднёвым санаторыі пад гарачым сонцам, а ў суровым краі поўначы, вечнай мерзлаты, дзе ў той час якраз і адбываўся найбольшы росквіт разгулу камуністычнай сістэмы, дзе былі толькі НКВД і іх ахвяры – палітвязні.

Мы сёння рады, што той час мінуў, і рады, што тыя сябры, якія вялі непрымірымую барацьбу ў ГУЛАГу і ГАРЛАГу, стаяць і сёння на вастрыні барацьбы супраць нялюдскай сваволі. Змаганне нашае за лепшую долю працягваецца і сёння.

З Львова рыхтуецца цэлая экспедыцыя ў Нарыльск, але захварэў чалавек, які павінен быў працаваць з відэакамерай, здымаючы ўсё, і таму невядома, калі мы адправімся туды. Але адправімся, упэўнены. Таму што выезд у Нарыльск павінен пачацца здымкамі, пачынаючы са Львова і аж да канца вяртання. І людзі туды павінны ехаць не тыя, хто проста хоча дзеля цікавасці праехацца, а тыя, хто знаходзіўся там і прымаў актыўны ўдзел у супраціве ўладам-наглядчыкам. Мы хочам, каб быў цікавы фільм пра нашую экспедыцыю.

Калі Ты вышлеш бандэроль са сваімі ўспамінамі, я буду дужа ўдзячны, ну і нарыс пра наш кангрэс у Кіеве надрукуем у газеце.

Пасведчанне пра тое, што Ты з’яўляешся сябрам мясцовай суполкі палітвязняў, ужо гатовы і заўтра вышлю яго Табе.

Нізкі паклон Табе, дружа, і сям’і!

Вітанне ўсім сябрам!

Няхай жыве Беларусь!

Няхай жыве Ўкраіна.

Абдымаю! *Васіль Нікалішын”.*

………………………………………………………..

“ *м. Стрый 10.XI. 1991 р.*

Добрий день, Ригор Сергійович!

Дорогий друже!

…………………………………………………………….

Дужа ўдзячны за ліст. Твае лісты, дружа, заўсёды прыносяць радасць і павагу да Цябе за Тваю стойкасць, за пастаянную барацьбу, за любоў да свайго народу. Беларусь мусіць быць самастойнай і незалежнай дзяржавай, калі яна мае такіх адданых сыноў, такіх змагароў, такіх герояў, як Ты.



Мы жывем у надзвычай складаны перыяд для нашых народаў.

Падняць свае нацыянальныя штандары гэта яшчэ не ўсё, – барацьба толькі пачынаецца. Камуністычная большасць у нашым парламенце пайшла па найменшым апірышчы і фактычна зноў яны хочуць надзець пятлю на шыю народа. Таму на кожным кроку ідзе барацьба. Зноўку адпраўляцца цэлыя эшалоны людзей да Кіева, каб апратэставаць ратыфікацыю гэтай домовы, а 1-га грудня 1991 года зноў пойдуць тысячы нашых людзей на Сход, на выбарчыя ўчасткі, каб сачыць за выбарамі прэзідэнта Украіны і рэферэндумам. У такім мы сёння часе і змаганні жывем.

Пішы, дружа. Ты яшчэ ў Нарыльску гаварыў, што мы напішам усю праўду пра Леніна-Сталіна, пра іх зверствы, і ад іх адхіснуцца народы, – так і сталася.

Паклон Тваёй жонцы, дзецям і ўнукам.

Шчасьця, здароўя і поспехаў у Вашым жыцці! Моцна цісну руку.

*Васіль Нікілішын*

*М. Стрый, Львоўскай вобл., вул. Металістаў, 7б/31”*

……………………………………………………………………..

“ *Гарадзея, 22 лістапада 1995 г*

*(на мове арыгіналу)*

Паважаны Рыгор Сяргеевіч!

Дзякуй Вам за ліст з дня 18 лістапада, які я атрымаў учора. Дзякуй за добрыя словы ў мой адрас. Я раблю, што магу паводле маіх сілаў і магчымасцяў. Праўда, не наведваю зборы і зборышчы, не маю на тое часу…

Я не ведаю, як мяне, і якія ў яе, Веры, былі сумненьні наконт мяне, бо я ж быў у Саюзе Беларускай Моладзі (СБМ) і не сядзеў за гэта. Проста, да 1969 года ці да 70-га ў мяне ніхто нават і не пытаўся пра тое.

А ў лагер я трапіў на шмат раней і за Веру, і за Пазьняка М. Бо я быў у той дывізіі РОА, якая пайшла на дапамогу паўстанцам у Празе – у Чэхіі – 5-га траўня 1945 года. А войскі маршала Конева так “спяшаліся” з-пад Берліну, што ўвайшлі ў Прагу, каб выраваць яе ад немцаў, толькі зранку 9-га траўня 1945 года. Так што з дывізіяй “Валенштайн” змагаліся мы, і паўстанцаў баранілі мы, а не Конеў, які пасля ў мемуарах апавядаў, што гэта яго армія дапамагала паўстанцам.

Хлусня ўсё гэта!

Я пісаў пра тое ў сваім вялікім артыкуле “Маршал Конеў схлусіў”, які друкаваўся ў двухмесячніку “Голас часу”, які выдаваўся ў Англіі. Артыкул мой надрукавалі на працягу ўсяго 1993 года, бо я выкарыстоўваў не толькі свае ўспаміны, якія камуністы Беларусі маглі аспрэчваць, а спасылаўся на чэскія газеты і нават на камуністычную “Рудэ права” 1991 года выдання,

калі ўжо нават чэскія камуністы не маглі падтрымліваць ужо версію аб тым, што Прагу вызваліў ад немцаў маршал Конеў.

Зрэшты, першы пра тое напісаў А. Салжаніцын у сваім “Архіпелагу ГУЛАГ”. Дык вось, з Чэхіі нас пяхотаю вывезлі ў Нямеччыну, каб чэхі не бачылі, што з намі будуць рабіць, – пасля на каранцін у Польшу, адкуль у жніўні 45-га павезлі ў Комі АССР – у горад Інта.

Але Інта мела ў сваім складзе яшчэ руднікі Кажым і Кырта (на мове комі – Эджыд-Кырта – Белая гара). Нас вярнулі ў Пячору (вёска Кожва на левым беразе Пячоры), дзе пагрузілі ў баржы і павязлі за 120 ці 180 км. у Кырту.

Але ад дрэннага харчу і паравознай вады (а нашыя харчы канвой у Маскве, на Краснай Прэсьні, абмяняў на гарэлку), – так што 35 дзён дарогі нам давалі па паўсухара ў суткі, а пасля і чвэрць яго (быццам бы вайсковыя часткі мяняліся і перадавалі харчовыя склады). Мы былі жывымі трупамі, і пакуль плылі па Пячоры восем кіламетраў да наступнага прыпынку “Канін нос”, толькі на нашай баржы было ўжо восем мерцвякоў. А яны, калі іх не пахаваць у зямлю, маглі быць разносчыкамі хваробы на ўсю баржу.

Таму мы падышлі да берагу каля саўгасу “Кедровый Шор”. А там мяне і яшчэ 800 чалавек ахапіў крывавы панос. Людзі мерлі як мухі. Лекаў не было, і толькі ў нашым бараку раніцай перад выхадам ляжала ад 10 да 14 мерцвякоў.

На маё шчасьце мяне чамусьці пашкадаваў доктар. Ён меў з Нямеччыны нейкія лекі для сябе. Мне ж даў тры белыя пігулкі, шапнуў, што я папраўлюся. І я ад восені 1945 года першы раз выйшаў у другі барак, – а так ляжаў бервяном, не мог пашавяліць ні рукой, ні нагой.

А там украінскія жанчыны наладзілі елку і сьпявалі калядныя песні. І тое было 6-га студзеня 1946 года. І была невялічкая радасьць на сэрцы.

Праз тыдняў два я змог ужо ісці на працу. Не забыўся падзякаваць доктару, што ён не аддаў мяне ў лапы смерці.

Коней ці якой тэхнікі не было, таму мы на сабе цягнулі на палі гной з каравячых фермаў. А зіма тады была суровая, лютая, – даходзіў мароз да 40 градусаў. А якое ў нас было адзенне? Лахманы… Ды і бяскроўныя мы былі, так што абмарожваліся штодня, і праз месяц усе выглядалі на неграў – абмарожаныя месцы цела рабіліся чорнымі. Паміралі, стоячы, рабіліся ледзянымі помнікамі. Такімі і скідвалі ў ямы, якія можна было назваць “брацкімі магіламі”, – без імёнаў і прозвішчаў, – як ахвяры сталінскай сістэмы і камуністычнага рэжыму.

Вохра была ўпэўненая, што нас усіх расстраляюць, таму была надзвычай жорсткая і строгая, не параўнаць нават да “вораў” (“зладзееў”) і бытавікоў, тых жа блатных.

І вось у канцы мая 1946 года нечакана ўсё рэзка мяняецца.



Нас рассоўваюць у брыгады, дзе амаль адсутнічае ахова, – і ўсе нас чамусьці віншуюць з гэтай падзеяй. Аказваецца, атрымана радыяграма пра тое, што нас ні судзіць, тым больш расстрэльваць, не будуць. Для нас у Маскве завочна прызначылі шэсць гадоў спецперасяленьня. Нас спачатку выкарыстоўвалі на пасадцы бульбы, паліванні капусты, а пасля адправілі на сенакос. А там толькі два канваіры, а касцы разбіваліся на некалькі груп.

А на пасяленне ці на волю нас не выпускаюць, – выкарыстоўваюць на працах у саўгасе. Бо вызваліць нас можна толькі пасля таго, як дапытаюць следчыя, калі высніцца, што ты не быў у паліцыі ці якім бургамістрам.

Следчыя ў Кырце. І вось толькі восенню 1946 года, калі мы заканчвалі сенакос, калі ўдосталь сваёй кроўю накармілі крыважэрных камароў, ад якіх ніяк нельга было адбіцца, нас пад аховаю ўсяго толькі аднаго канваіра накіроўваюць у Кырту.

Толькі з восені нас з баржы знялі 800 чалавек, зноў пагрузілі на другую баржу, але ўжо ўсяго шэсць чалавек.

А.М. Пазняк лічыць, што яму было цяжэй за ўсіх. Толькі Вы адзін можаце ведаць, каму было лягчэй: ці ў 1945-46 годзе ў агульным лагеры, дзе блатныя ноччу выкрадалі апошнія 6 сталінскіх рублёў, што давалі раз на месяц за працу, і апошнюю пайку хлеба, – ці ў спецыяльных лагерах для палітычных пасьля 1949-га года (калі пасадзілі ўжо Веру).

МінЛаг у Інце арганізоўвалі вясною 1948 года. Следчы па прозьвішчы Растvoраў, дыхаючы мне ў твар гарэлачным перагарам, настойліва задаваў пытанні:

– Скажы, чаму ты ў 1941 годзе не ўцякаў ад немцаў? Чаму, застаўшыся, не пайшоў у партызаны? Што ты рабіў падчас акупацыі і чаму не паехаў разам з ворагам у Нямеччыну?

– Так сталася, што…

– Ты мне не на словах, а пісьмова, і падрабязна, пра кожны дзень! Пішы!

Адказы на пытанні пісаў так: я быў савецкім патрыётам.

– Ты мне ваньку тут не валяй! – раз’ятрыўся Растvораў. – Патрыёт мне тут знайшоўся! Праўду, чыстую праўду, што ты прадаўся немцам, ну!?

Я зноў пісаў тое ж самае, чым больш злаваў дапытчыка.

Не ведаю, чаму, але яго праз тры месяцы звольнілі, ды звольнілі зусім з органаў МВД. Чаму? Па простай прычыне – ён не мог дабіцца ад нас “шчырых” прызнанняў. І нікога не пасадзіў. І ён жа мяне наймаў на працу конюха, прызначаў нават начальнікам коннага двара. Начальнікам!

Не ведаю, ці то ён мала меў звестак пра акупацыю, ці ўвогуле не ведаў пра тое, што на акупаванай тэрыторыі ствараліся нацыянальныя

маладзёжныя арганізацыі, але ні аб якім СБМ, ці філіяла Гітлерюгенда ён не дапытваўся, а сам я нічога лішняга не казаў, каб не наклікаць якой бяды.

А праз сорак гадоў тыя, хто 45-46-х гадах гулялі і жаніліся на беларусках, якія знаходзіліся на волі да 49-га ці 51-га гадоў, і якіх арыштавалі за СБМ, бо ўсіх паліцаяў і бургамістраў пасадзілі, а пляны па пасадцы (зьняволеньні) трэба было выконваць, пытаюцца ў мяне свае ж:

– А чаму гэта ты, братка, не сядзеў за СБМ?

Ну, што мне, Рыгор Сяргеевіч, ім адказаць? Ды адкажу я спакойна і без крыўды так:

– Даражэнькія мае! Ды таму, што ў Комі АССР у 45-46-ыя гады аб СБМ нічога не чулі, і таму такіх “злачынцаў” не шукалі. Вось і ўсё.

Але я пачаў паводзіць сябе прасцярожліва – у сябры не набіваўся, ні да кога ў хату не лез дзеля размоў, “не цягнуў нікога за язык”, каб ніхто не падумаў, што я выконваю чужую волю ці загад.

Колькі ні запрашала мяне Вера ў госьці, пакуль жывы быў яе Жэнька, я не ішоў, хаця яе мужыка ведаў добра – з 1939 года. Зблізіліся мы з ім толькі ў 1991 годзе, калі я пражыў ужо у Гарадзеі 15 гадоў.

Чаму не лезу ў душу людзям, я расказваю ці пішу тым, хто хоча бліжэй сябраваць са мною. У маім сэрцы адбітак таго цяжкага часу, не з кожным магу быць адкрытым і шчырым, а з Вамі, Рыгор Сяргеевіч, я гатовы апавядаць пра самыя патаемныя і незабыўныя эпізоды свайго жыцця. Пра тыя, якія ніколі і нікому не расказваў.

З павагай да Вас – *Аляксандар Баханчык, Нясвіжчына.*

P.S. Сьцеражыцеся прастуды і больш зьвяртайце ўвагі на здароўе, бо нам трэба дажыць да лепшых часоў. З павагай да Вас – *Саша, Аляксандр, Алесь.*

*Гарадзея, Менскай вобл., Нясьвіжскага р-на, вул Залінейная, 33. Аляксандр Іосіфавіч Баханчык”.*

3

Добры дзень, дарагі Рыгор Сяргеевіч!

Дасылаю табе вершы Надзеі Дземідовіч. Яна ўжо баіцца, што да вясны не дажыве – хварэе часта. Таму хоча, каб хто-небудзь прачытаў яе ўспаміны.

Акрамя ўспамінаў дасылаю яе вершы, якія я ўзяў у Анціпавай, якая разам з бацькамі адбывала тэрмін на Калыме ва ўзросце 11-16 гадоў.

Я паказаў тыя і іншыя вершы знаўцу паэзіі, і ён выказаў сваю думку пра іх, сказаў, што радкі Дземідовіч заслугоўваюць увагі.

*З пажаданнем дабра і шчасця Табе і Ганне Апанасаўне.*

………………………………………………………..



Добры дзень, паважаны спадар Рыгор Сяргеевіч!

З прывітаннем і вялікай пашанай Надзея, былая сяброўка СБМ.

Не пытайце пра здароўе і настрой, бо ведаю, што яно ў нас павінна быць.

Прабачце, што шлю Вам нізку сваіх, ведаю, сырых вершаў, – можа пусціце ў свет, каб людзі ведалі пра “шчасьлівае наша жыцьцё”.

Не пішу я ямбам, харэем ці іншымі радкамі, дасканалымі і глыбокімі, як пішуць іншыя, сапраўдныя паэты. Мае вершы і не вершы зусім, а крык набалелай душы. То ты ўжо быў чалавекам адукаваным, калі цябе зрабілі вязнем, а я яшчэ падлеткам была, не магла вучыцца і асвойваць навукі…

Так што зразумейце мяне, паважаны спадар. Не буду распісваць, хацелася б пачуць ад Вас думку, – ці вартыя яны што, вершы. Нам яшчэ патрэбна шмат сілаў, каб пра боль сваёй душы апісаць.

Да пабачэння, усяго Вам добрага.

*Надзея Дземідовіч.*

*Мінская вобл., Мінскі раён, п/а Калодзішчы. Вул Радзюка, дом № 6.*

*(Ад аўтара: вершаў два тоўстыя агульныя сшыткі. Не ўсе яны адназначныя, але я адабраў некалькі, якія ў нейкай меры раскрываюць вобраз пакутніцы-жанчыны ў савецкіх лагерах. Беларускай пакутніцы.*

Я не браў на сябе ролю рэдактара ці карэктара – як паэтка напісала, так і друкуем).

***Кенгір***

Я ў Кенгіры пажыла.
Вагнямі сонца грэла.
І сёньня трашчыць у вушах
Крык сэрцаў анямелых.
Із шлангаў б’юць у нас вадою.
Вада з брудам, шлакам.
Стралялі ў хлопцаў у калоні
Астрожных небаракаў.
Салдат наводзіць аўтамат.
Другія шланг наводзяць,
Каб біць вадою нас, дзяўчат,
У сталінскім астрозе.
Замучаных жанчын таўпа
І дзяўчат даўно з волі.
Крычаць страшным крыкам: “А-а-а!!!”
А вада б’е да болі.
Прыйшоў начальнік лагера,
Як нас вадой злівалі,

Даў слова “чэсьці гонару”
Каб ішлі і працавалі.
Канвой не будзе нішчыць вас,
Бандзітаў паўбіраюць.
І вымуць краты із вакон,
Замкі з вас паздымаюць…”

***Шумяць вятры***

*6-IV-953, Кенгір*

Шумяць, шумяць да рана
Нас песню будзяць вятры.
Калісьці нам мамы спявалі,
А сёння спяваеце вы.
Нагрэем мы нары сабою,
Аттаня намерзлы бушлат,
Разбудзяць яшчэ цямнатою
Пагоняць баланду хлябаць.
Разводы, канвоі і праца,
Не праца, а мукі і здзек,
Да цёмнае ночы дабудзем –
І гэтак праходзіць наш век.
У пошуме вашым я чую:
Пах жыта і роднай зямлі,
Плёск рыбы у рэчках вясною,
Бачу, як лятуць жураўлі.
У восень шнурочкамі гусі
Ляцяць вельмі нізка яны, –
То знай, што ў маёй Беларусі
Чакаць трэба хуткай зімы.
Шумі ты, шумі безупынку,
Прыйдзі наваколле зямлі!
Успей расказаць ім даранку,
Бо ліст мне пісаць не далі.
А можа ўбачыш ты маму,
Ці сёстраў, каго хоць з радні, –
Скажы, што мы прыйдзем дадому.
І ім пра наш лёс раскажы.

***Раісі Саванец***

Не прышла, не прышла ты тады.
Данос умацаваць адказала.



У школу разам хадзілі мы,
Ды за што ты сваіх прадавала?
Хто заставіў не праўду пісаць,
Скажы, у чом я была вінавата?
Не віноўных за краты ўпіхаць, –
Мо была ты тагды дурнавата?
Але не, бо хацела ты жыць.
Лёс чужы тваю душу не раніць.
Як сказалі табе падпісаць,
“знак крывавы” на жыццё паставіць.
Каму што? Вам хацелася жыць.
Хай другія за вас паміраюць.
Тваё дзіцятка спакойна спіць,
Анялочкі яго забаўляюць…
Другіх лёс не турбуе цябе,
Не баляць і чужыя раны.
Соль у вочы сыпалі мне,
А цябе яны больш не чапалі.
Ты жыццё нам зламала тады,
Адарвала, як галінку бэзу.
І засохлай яна без вады,
Каб другі не падняў яе зразу…
Як гадуюцца дзеці твае?
Ці да кляўзаў ты іх прывучыла?
Глянь на рукі, мазолі мае,
Глянь на ногі: ты іх перабіла…
А што стала калекаю я
І нікчэмна па свеці блукаю, –
Гэта памяць, “сяброўка” твая,
Што я сёння стаю толькі з краю.
………………………………
Ручаёк із зямлі уваскрос,
Выцякае вада із крынічкі.
Ты ўкрала ў мяне многа год,
Незабытка “сяброўка” Раіса.
………………………………..
А як ты, ці шчаслiва жывеш?
Мае болі ты не адчувала.
Мо Надзею калі ўспамінаеш,
Што ў шаснаццаць гадоў закапала?

*2-IX-1993*

…Дарагі Рыгор, дазволь цябе так называць, асмельваюся так цябе называць, – вітаю, родны мой чалавек. Мы родныя па духу, па адчуванні сваёй адказнасці перад людзьмі і перад Богам.

Я пісала раней табе пра Саюз Беларускай моладзі. Гэта сама трагічная, але ж і самая светлая з'ява ў маім жыцці.

Так, нас асудзілі, прызналі вінаватымі ў тым, што мы любім свой край і радзіму. Мусіць, большага граху на нашых душах і не было.

Вераніка Катковіч, пра якую ты ведаеш, апавядала, што шмат дзяўчат і маладых жанчынаў яна пабачыла ў Кенгіры. І ўсе яны – былыя сяброўкі СБМ. Гэта яны разам з іншымі вязьнямі амаль сорак дзён вытрымлівалі аблогу вызваленага ад аховы лагеру савецкімі войскамі – чырвонапагоннікамі.

Цудам удалося вырвацца з Кінгірскага пекла дэлегатцы Ўсебеларускага Кангрэсу Яўгеніі Шостак. Але… але нядаўна яе не стала. Вера Касмовіч з Гарадзеі, я – са Слоніму, Яўгенія Шэфер – яна была жонкай мінскага кіраўніка СБМ Сяргея Бузака, Ефрасіння Корч з Баранавічаў, Іра Волкава з Вілейкі, Вальжына Поляк з Палесся – і шмат-шмат іншых…

Мы ведаем з табой, што гэта за такая кропка на мапе зямнога шара – паселішча Кенгір, як атожылак ад архіпелага Стэплаг. Нідзе, ні ў ніякіх школах Савецкага Саюза, не гаварылі пра гэтыя мясціны. Іх як быццам бы і не існавала ў свеце. Так, людзі ўпершыню прачытаюць праз сорак гадоў Салжаніцынскі "Архіпелаг Гулаг".

Калі сканаў Вялікі Кат, у нашых сэрцах нарадзілася маленькая надзея, спадзяванне, што ўсё пераменіцца. І ты ж думаў так, праўда? Таму ў лагерах пачалі рыхтавацца да нечага значнага і неабходнага. Пачалі ўзнікаць першыя страйкі, сабатажы, – але яны падаўляліся адразу і з найвялікшай жорсткасцю.

Памятаеш, як сустрэлся дзве калоны вязьняў – мужчынская і жаночая. Адныя ішлі ў адзін бок, а другія – у другі. І трэба ж такому здарыцца – адна жанчына пазнала свайго мужа. Пазнала і ўскрыкнула, падняла руку, трымаючы ў ёй хустку. І ў той жа момант канваіры па вязнях пусцілі аўтаматную чаргу…

Шаснаццаць чалавек, душагубы савецкія, паклалі на зямлю, забілі. Іх хацелі на руках несці "палітычныя" – не дазволілі ахоўнікі.

Нешта не спадабалася чырвонапагонніку ў адказе евангеліста, які адседзеў дзесяць гадоў і вось-вось павінен выйсці з лагера, – дык ахоўнік стрэліў яму проста ў грудзі.

Але вязні не скарыліся, не сталі на калені.

Бачачы такі ўнутраны супраціў, яны прыдумалі гнюснасць. Прывезлі партыю "блатных". У спадзяванні, што яны накінуцца на палітычных і прымусяць іх перамяніцца, навесці на іх тэрор. Але яны былі недальнабачныя, не ўлічвалі таго, што Кінгір ператварыўся ўжо ў іншую "дзяржаву", што там правіў баль ужо іншы кантынгент. Там былі ўжо "контрыкі", "калабаранты", "здраднікі"… А здраднікамі з'яўляліся беларускія інтэлігенты, сябры суполак СБМ, жаўнеры БКА, украінскія змагары з УПА, а гэтак жа жаўнеры Чырвонай Арміі, якія штурмавалі Берлін, а потым за тое і трапілі ў ГУЛАГ. Ці ім любіць савецкую ўладу і Сталіна? Яны смела расказвалі, як жывуць людзі на захадзе – не так, як у краіне саветаў.



Яны неяк змаглі дамовіцца з "блатнымі", знайшлі агульную мову з імі. А калі ахова пачала праяўляць найвышэйшую жорсткасць да вязняў, лагер выбухнуў паўстаннем. Можа нават і не стыхійным паўстаннем, а чаканым.

Трохдзённы страйк… А потым лагернае начальства, бачачы перакананасць і цвёрдасць зэкаў, салаўём заспявала пра тое, што ўмовы ўтрымання зменяць на лёгкія, з умовай, толькі каб катаржане выйшлі на працу. Людзі выйшлі, але палёгкі той не дачакаліся… Першымі тую хлусню адчулі на сабе ў жаночым бараку, дзе былі Вераніка Катковіч, Вера Касмовіч, я, а са мной Яўгенія Шостак. На маіх вачах Жэнечку, якая сядзела на высокім падваконніку, збіў танк сваім дулам. Гэта здарылася на саракавы дзень, калі мы абараняліся ў Кінгіры, калі савецкія танкі душылі нас гусеніцамі.

Мы не выходзілі на працу. І каб нас прымусіць працаваць, прымусам вывелі на пляц, і сталі паліваць ледзяной вадой з пажарных брансбойтаў.

Рыгорка, дарагі мой! Я такога жудаснага крыку не чула за ўсё маё жыццё! То не крык быў, а Бог ведае што, – суцэльны гул жаночых выццяў і рыкаў. Не дай бог чуць такое, а ня тое, каб быць сярод тых, хто выдаваў тыя крыкі!

*Гарашчых ня мелі бутэлек*
*І мін мы пад танкі ня клалі.*
*Мы - дзеці савецкіх Бутырак,*
*Хіба што душа чыста з намі.*
*Ламаліcь баракі пад танкам,*
*Давіў жаўнер п'яны людзей,*
*Чэрвеньскім ранкам крывавым*
*Для шмат каго скончыўся дзень.*
*Танк нішчыць барак інвалідаў,*
*Дзе Гамзіна бабка сядзела -*
*(Ёй тэрмін даўна ўжо выйшаў,*
*Але яна дома ня мела...)*
*Ня плачуць ужо і ня стогнуць...*
*Пісаньне Сьвятое збылося*
*Ня вернемся болей дадому...*
*Нам тэрмін адбыць не далося...*

Але мы вытрымалі… Сорак дзён, – Рыгор! – сорак дзён! – адабраўшы зброю ў ахоўнікаў, верачы ў тое, што паўстанне перакінецца і ахопіць іншыя лагеры, што урэшце-рэшт з'явіцца доўгачаканая камісія з Масквы, – нашыя спадзяванні не спраўдзіліся. Па начах той жа канвой, які мы прагналі, рабіў дзіркі ў плоце і стараўся пралезці да нас… Мы іх адганялі і адбіваліся, чым маглі, забівалі тыя дзіркі, з цэглы рабілі нейкія перашкоды. З аконных кратаў, вырваўшы іх, рабілі нажы, алябадры, шаблі, – зброю, з якой мы адчувалі сябе ў нейкай небяспецы.

Былыя бандэраўцы і былыя школьніцы двойчы пойдуць у контратаку на сталінскія танкі. Без зброі ды на танкі… Смешна, канечне ж, але такое было.

Некаторыя з іх, хто быў выхаваны ў пурытанскай сялянскай маралі, паспявалі нават у лагеры пакахаць адно аднаго, павянчацца. Так, так, было і такое. Так бы мовіць, па хрысціянскіх канонах. Вянчаліся не ў царкве, але храмам для маладых быў сам лагер. А сярод вязняў былі і святары. І яны, павянчаныя, нават не нарадзіўшы дзяцей, гінулі пад гусеніцамі савецкіх танкаў. Савецкія танкі тапталі сваіх, савецкіх жанчынаў. Жах!

Беларускіх дзяўчатак разам з іншымі адпраўлялі ў Тайшэцкія лагеры. Там, ад непасільнай працы, яны паміралі штодня.

Не забуду ніколі, як мне распавядала Вера Касмовіч пра лёс адной жанчыны. Яна, трымаючы ў руках кувалду, машынальна махала, стараючыся расплюшчыць нейкую жалезіну. Ды не бачыла, куды трапляе яе молат, па галаве ўдарыла сваёй суседкі…

Так, шмат нас тых, хто быў у СБМ, траплялі ў крывавы савецкі млын.

А я ні на хвіліну не забывалася пра тое, чым мы займаліся ў нашай суполцы. Я дапамагала Ніне Карач займацца арганізацыйнымі пытаннямі – мы малявалі і выпускалі насценныя газеты, пісалі вершы, вялі атрадны дзённік добрых спраў.

Мяне ледзьве не арыштавалі ў першы дзень пасля вайны, калі я была ў Ніны дома.

Сярод ночы жаўнеры чырвонаармейцы ўварваліся ў хату, ператрэслі ўсё ў хаце, вывелі з хаты заплаканую Ніну. А раніцай прыбегла спалоханая цётка Надзя і сказала, што ноччу прыходзілі і за мной. Шмат тады моладзі арыштавалі. Ні за што арыштавалі.

Я хавалася ад органаў НКУС. Дапяла аж да Паўночнага Казахстану.

Петрапаўлаўск. Па дакументах сястры я стала “Лідзіяй”. Пачала працаваць, пайшла на бухгалтарскія курсы. Сустрэла хлопца, пакахалі адно аднаго. Ён падараваў мне гадзіннік, прапаноўваў пабрацца з ім.

Арыштавалі мяне прама за бухгалтарскім сталом. Павялі ў той “жудасны будынак”. Пераступіла парог, а там каля акна стаіць мой жаніх. Я абрадвался, крыкнула:



– Саша!

А ён, адвярнуўшыся ад мяне, працадзіў скрозь зубы:

– Я вам болей не Саша.

А я ж не ведала, што ён працуе ў карных органах…

У камеры я ўвесь час плакала, а потым цяжка захварэла.

А потым допыты, допыты, допыты… СБМ амаль не ўспаміналі, але рабілі ўхіл ці націск на тое, што я пісала “антысавецкія вершы”. А я, прызнацца, нават не ведала, што такое “анты”…

Не дабіўшыся ад мяне нічога, прапускалі праз цела ток, засоўвалі пад пазуры іголкі, пыталіся пра галоўнае:

– Што табе вядома пра бандытаў на Беларусі?

Я губляла прытомнасць, і мяне ўжо цягнулі, нежывую, да камеры.

Канваір, кладучы мяне ў камеры на падлогу, з нейкім спачуваннем папытаўся:

– За што яны цябе?

– Ня ведаю…

Прамовіў:

– Правільна: іхняя справа пытаць, а твая – маўчаць.

Я потым і шкадавала ўжо, што хавалася ад уладаў. Чаму? У 1944 годзе юным “здраднікам Радзімы” давалі па пяць гадоў пазбаўлення волі, актывістам – па дзесяць. Але да моманту майго арышту змяніўся час, і я атрымала ўсе дваццаць пяць гадоў.

Яны здзекваліся нават над маёй маці, казалі ёй: “Твая дачка вернецца да цябе сівой старухай”. Але на дзіва, маці раптам перастала плакаць і з годнасцю крыкнула ў бок канвою:

– Маніце, маніце! Зменяцца часы, і хутка зменяцца! Вось пабачыце!

Вось як яно, дарагі Рыгор, атрымоўваецца.

Ты прасіў, каб я што-небудзь распавядала табе пра маю лагерную сяброўку Веру Касмовіч. Во дзе крыштальна чысты і адданы беларускай справе чалавек! Трапіла ў шэраг ворагаў за тое, што дапамагал “лясным братам” Янкі Раманчука.

Яны працяглы час пасля вайны змагаліся супраць бальшавікоў у лясах пад Баранавічамі. Партызанскія схованкі ім вельмі спатрэбіліся.

Ян Раманчук – былы настаўнік. Пасля вяртання са зняволення ён не скарыўся савецкай уладзе. Сабраўшы людзей, незадаволеных савецкім ладам, разам з імі пачаў змагацца супраць чыноўнікаў і міліцыянтаў. Назбіралася вялізная група такіх незадаволеных.

Раманчук і Вера Касмовіч пабраліся.

У піцідзясятых гадах, хадзілі чуткі, што Янку Раманчука міліцыянты забілі прама каля зямлянкі. Іншыя казалі, што яго адправілі ў лагер…

Невядома, што з ім сталася.

Да сям'і Касмовічаў падсялілі афіцэра КДБ, які ўвайшоў у давер да мужа Веры Сымонаўны. Спачатку арыштавал яго, а потым, цяжарную, і яе, Веру.

Баранавіцкая турма пад назвай "Крывое кола".

На допытах, не зважаючы на яе цяжарнасць, следчыя Хартановіч і Парахневіч, прымянялі самыя жорсткія прыёмы катавання.

Далей – праз перасыльныя турмы – Кінгір. Нарадзілася дачка Людачка (дзяцей, якія нараджаліся ў турме, называлі альбо Русланамі, альбо Людмiламі).

Лёс дачушкі аказаўся больш літасцівым, чым да малога сына сяброўкі Веры – Веранікі Катковіч…

Цяжка пісаць, цяжка ўспамінаць, дарагі мой Рыгор!

***Успаміны пра Кенгір***

Я пішу ад збалелай душы,
А кажуць: "радочкі сырыя".
Не даспелі мае каласы,
Бо іх ветры люля чужыя…
Гаркатою мне ў роце пякло
Пад сонцам пякучым Кенгіра,
На марозі суўыла яго
З потам убаўлялася сілда.

Пакрыёмы на сэрца цяклі:
Рэчкі слёз і там ападалі,
Бо ў маёй маладзенькай душы
Блыскавіцамі думкі мільгалі.

І хацелася жыць, працаваць,
Ноч'ю лічыць срэбныя зоры.
І не страшна было ўміраць
Ад танкаў у жаночай зоні.

Як пад танкам жывое трашчыць.
Німаюць ратунку ад газу,
Кроў у сэрцах, як у домні кіпіць,
З вачэй нашых не коцяцца слёзы.

Чаму смерць не страшыла мяне,
Хоць была я заўсім маладая?
Шкадавала я толькі людзей,
Бо я сэрцам народ свой кахала.



Шкадавала я лепшых між нас,
Тых людзей, што ўсё разумелі,
Шкадавала дзяцей у той час,
Што разам са мною сядзелі.

Станавілася заўжды ўпярод,
Каб сяброўак закрыць сабою:
Вада халодна са шлакам, як лёд,
Нас збівала ртутнай струёю.

Не шукала там смачных кускоў
І лёгкіх хлябоў не шукала, –
Я хацела паехаць дамоў,
Дзе мама мяне ўсё чакала.

У яе хаце агонь не свяціў,
Зайсці баяліся чужыя.
"Сталін любімы – дачку судзіў
У пятнаццаць за "Здраду Радзіме".

У душы аганёк не пагас,
Хоць яго сто разоў залівалі,
І няпраўду казалі пісаць –
Угаворвалі, мучылі маму.

Адхілілася ад свету душа
У маўчанні ішла на работу, –
З ею Святая Марыя была,
Памагала знясці адзіноту.

Прапасціла доўгія гады:
– Мая мамачка шчыравала.
– Усе серады быз хлеба і вады.
Хоць да сонца ўлетку ўставала.

Чорныя косы, погляд вачэй
Васільковых цёплых і шчырых
Яе бяссонных, пакутных начэй,
Чакаючы дзяцей у чужыны.

Успамінаецца Кенгір мне:
Апошні дзень смяротнай зоны.

Прастрэлена спадніца на мне,
І корчыцца сэрца ад болі.

Не раны, а шротавы плямы
Салдата, як я маладога,
Мне цела бяздушна спяклі –
Прасіла цярпення ў Бога.

Быў хлопец, здаецца, вясковы,
І я ад яго не ўцякала,
Бо лезлі раз'юшаны танкі
На барак, дзе Лігіта спала.

Страчыў ён па мне без прыказу,
Дарма, што была маладая.
Я помню, як сёння, не плачу,
хоць голень была ўся рабая.

Мы без імя былі… нумаркамі…
У вагоны як быдла піхалі,
І крычалі: "Мы ў вас не стралялі!" –
Хоць трупы ў крыві ляжалі.

Пах крыві разлятаўся ад нас
Па сухой зямле Джэзказгана…
Закопвалі мёртвых у той час,
Як летняе сонца спякала.

Слёзы вачэй не мылі ў нас, –
Яны ў сэрцы навек асталіся.
Вось яны ў грудзях не маўчаць
І мочаць загон у маём жыцці.

30-XI-1993

Мо трохі акрыяю, вернуцца да мяне сілы, дык я ва ўсіх падрабязнасцях напішу пра нашыя пакуты – пра маіх дарагіх сяброваак.

А пакуль я развітваюся. Жадаю табе добрага здароўя і тваёй любай Ганначцы!

З павагай – *Надзея Дземідовіч."*

*P.S.*

І на заканчэнне (*не ўтрымалася*) яшчэ адзін верш. Які сядзіць у сэрцы.



***Чакаю***

Вецер свішча ля майго вакна
І хмары разносіць па краю,
Чакаю, а цябе ўсё няма,
Адна я чакаю, чакаю.
Хустка не грэя, мне халадно,
І зябнуць збалелыя рукі.
Не хоча біцца сэрца маё,
Не хоча йсці праз пакуты.
Я чакаю з дарогі цябе:
Дзень і ноч на Усход выглядаю…
Зараслі ўжо сцяжынкі твае,
А я ўсё чакаю, чакаю…
Зніклі дарожкі, дзе ты хадзіў,
Зямля не такая тут стала,
Дзе тата для нас хату рабіў
І мама яму памагала.
Калі ты ў тайзе не заснуў,
Смерць у Курапатах мінула, –
Пачуй ты, мой голас пачуй,
Бо я ўжо да хаты вярнула…
………………

4

…Цікавы і грунтоўны ліст пра тыя жудасныя падзеі даслаў мне *Барыс Дубіцкі з Запарожжа, дзе ён пражываў па вуліцы Рэспубліканскай, 67 кв. 30.*

Без яго поўны вобраз, малюнак, карціна таго часу і тых падзеяў не атрымалася б, так бы мовіць, у агульны вянок не ўплялася самая апошняя, мо і галоўная, кветачка. Як і ў мастака ў яго працы, над якой ён карпеў гады і гады, ды не хапала апошняга, завяршаючага, але такога неабходнага штрышочка, на першы погляд – нязначнага… Так і тут.

Я яго ліст хачу далучыць да агульнай тканіны аповяду пра Нарыльск.

Нарыльск, Нарыльск… З памяці нашай ён ніколі не знікне…

Дык вось, прапаноўваю, выношу на суд чытачоў.

…………………………………………………………

"Здравствуй, дорогой Гриша!

Прости за задержку ответа на Твоё письмо.

Почти весь январь проболел, – сначала простудился на работе, затем подхватил грипп, который, увы, переболел тяжело. Но, слава Всевыш-

нему, и на этот раз выкарабкался, кажется, без осложнений. Ну, а теперь уже скоро весна, солнце и тепло с надеждой на какое-то улучшение.

Не знаю, доходит ли к вам какая-нибудь информация о событиях в Украине, тем более, что разворачиваются они вопреки ожиданиям ваших руководителей.

Ещё до окончания выборов президента, Кучма издал Указ о ликвидации колхозов и передал земли в частную собственность с правом продажи. Коммуняки не очень сопротивлялись, будучи уверенными, что придут к власти и умолят тот Указ. Однако случилось нечто ими непредусмотренное.

Сразу, после выбора, Президент потребовал, чтобы в парламенте было создано большинство, которое в союзе с правительством и Президентом возьмёт на себя ответственность за все дела в стране. Иначе он парламент разгонит.

Одновременно Президент издал Указ о проведении в марте референдума о доверии парламенту, снятии неприкосновенности с депутатов, перехода на 2-х палатный парламент, уменьшении численности депутатов до 300; ликвидации символов УССР, изменений некоторых статей конституции и принятии её референдумом; право Президента распускать парламент, если он не работает или работает плохо.

И тут коммуняки взбунтовались, забаррикадировались в здании В.Р. и закрыли доступ в неё организовавшемуся конструктивному большинству. Произошла так называемая «бархатная февральская революция».

Большинство парламента собралось в другом помещении, сняло с должности колхозного кнура Ткаченко, изгнало из всех комитетов коммуняк, и после короткой потасовки заняло здание Верховной Рады. Даже новый спикер И. Плющ разогнал банду «конотопской ведьмы», а группа депутатов внесла на рассмотрение Законопроект о запрете деятельности КПУ.

Лишённые власти, коммуняки сначала «ощерились», но через пару дней начали скулить, хлопать руками и другими предметами по столам, уходить с заседаний. Но у Плюща нервы крепкие, он ведь не впервой в спикерах.

Сейчас парламент, невзирая на обструкцию, занялся бюджетом при новом премьер-министре и, думаю, днями его примет, чему прежняя ВР, исходя из популистских соображений, всячески препятствовала. Бюджет будет тяжёлым, но многие «жирные коты» лишатся своих льгот.

Словом, в конце тоннеля появился свет, и какие-то надежды на изменения к лучшему. Беларуский вариант Президентом решительно отвергается; судя по частным встречам с поляками в основу взят польский вариант.

Одновременно взялись за коррупцию во всех эшелонах, и тут над «кнуром» повис топор за его махинации в прошлом. Финансовые дела



держит твёрдой рукой новый премьер Ющенко, у него это получается хорошо. Знал бы ты, как взбеленились наши «старшие братья» на севере. Владольф дошёл даже до прямых угроз (правда, если его изберут президентом, чего, видимо, ожидать не следует).

Далее последовало заявление МИД России по поводу вытеснения русского языка. Никак кацапы не хотят себя признавать национальным меньшинством в Украине, хотя украинцев в России, конечно же, считают нацменьшинством, равно как и всех остальных.

Потеряв власть, коммуняки начали разваливаться как айсберг под лучами солнца. Раскололись социалисты, размножаются делением и коммунисты. Где делась их видимая сплочённость? Экономическое положение Украины понемногу стабилизируется, поплывшая гривна застыла на отметке 5,5 гр. За 1 доллар. Это, конечно много, если учесть, что при введении она была – 1, 75 за доллар. То есть, в три раза ценнее.

Соответственно поднялись и цены на некоторые продукты рынка, хотя по-прежнему всего в изобилии (кроме колбасы по 2,20) Теперь многое зависит от погодных условий и успеха реорганизации сельского хозяйства.

По словам нового руководства, горючим крестьяне будут полностью обеспечены. И всё же на с/х фронте, по моему мнению, предстоит весной схватка между старым и новым мышлением.

Пока же готовимся к референдуму 16 апреля, от итогов которого многое будет зависеть. Если молодёжь на этот раз не подведёт, думаю, всё будет О’кеу, на зло москалям.

Сейчас у нас, по одному из телеканалов, идёт серия передач по произведениям В. Суворова с участием самого автора и оппонирующих ему военных из числа армейских и разведывательных органов. Как ни тщатся они опровергнуть его документальные материалы – ничего у них не вышло.

Конец событиям в России поставят, вероятно, выборы нового президента. В том, что им станет Путин, ни у кого сомнений нет. По моему мнению, эта серая лошадка из категории Дзержинский-Берия-Андропов. Не удивлюсь, если сразу после выборов он «снюхается» с коммунистами, ибо сам таковым является. Хорош или плох он будет для Украины, пока сказать трудно, но ясно, что он будет не Ельцин, а деятель гораздо более жёсткого стиля. Хотя, слава Богу, не Жириновский, пытающийся мыть сапоги то в Индийском океане, то в Чёрном море у берегов Крыма.

Словом, скоро увидим, что из этого выйдет.

Извини, что так подробно изложил тебе тему сегодняшней Украины. С моими мыслями и предсказания будет интересно ознакомиться читателю и через десять, двадцать и тридцать-пятьдесят лет. Думаю, и для тебя они будут представлять интерес.

А теперь…

А теперь – о деле, касающегося второго издания Твоей книги.

Сначала о памяти. Она, конечно, избирательна, тем более, что со времени событий прошло так много времени, – почитай полвека! Длительное время, точнее, до 1985 года, вообще никакой речи о публикации воспоминаний и речи не могло быть, – а это уже прошло 40 лет, – со-рок!

Что же говорить, когда это срок увеличился до 55 лет!?

Тут не только подробности, даже ориентировочный ход событий можно перепутать. Сам я, признаться и не собирался ничего писать, пока вдова профессора Годлевского, сразу после смерти не «вцепилась» в меня мертвой хваткой, сначала в воспоминаниях о самом Михаиле Николаевиче Годлевском, далее – лиха беда начало.

Было это в далёком 1985 году. Нина Юрьевна и Корникова (супруга Годлевского) – доктор геологических наук, величина видная среди учёных, могла «протолкнуть» мои воспоминания и вскоре, после мучительных терзаний памяти, появилось моё «Горячее лето 1953 года».

Далее встал вопрос, как его передать для опубликования. Первоначально предполагалось передать его Андрею Дмитриевичу, только вернувшемуся из Горького, далее подыскался «момероил» в лице Никиты Глебовича Охотникова, который вместе с А. Рочинским «втолкнули» этот труд в альманах «Звенье». Всё вместе взятое заняло около шести лет, альманах вышел в 1991 году, т.е. через 38 лет после событий 1953 года. Вот так, дорогой мой дружище!..

Итак… К делу. В Норильск меня привезли осенью 1945 года. Привезли ещё «тёпленького» – после гитлеровских концлагерей, подвалов СМЕРШа и многочисленных этапов по Северному морскому пути, где я насмотрелся всего.

В конечном итоге, то, что я попал в Норильск, можно считать везением в моей жизни. Комбинат нуждался в специалистах, поэтому около половины своего срока я проработал в технических службах комбината (КЭМР, коксохимстрой, ЭРЦ, кирпзавод № 1 (КиБЗ), Проектной конторе), – не понаслышке знал многих руководителей, и держал в руках техдокументацию на многие объекты.

Половина срока в течение этих 9,5 лет (полгода мне скостили по зачётам) я рыл котлованы коксохима и горстроя, работал слесарем, электриком, мастером на бетонных работах и даже мыл полы в помещениях администрации 5-го л/отделения, будучи в хозбригаде лагеря.

Поменял несколько лагерей: 7, – 6 и 2, ИТЛ, а далее 5 и 4 Горлага. Половину срока мне «испортили» оперативные работники лагеря, с которыми я никак не находил «общего языка и мыслей», за что и платился списанием на общак, из которого долго и мучительно выбирался для работы по специальности.

В комбинатских кругах меня ценили как хорошего, добросовестного специалиста. Освобождался я в 1954 году будучи инженером Проектной конторы, но из-за отсутствия диплома хорошее место мне не давали. Поэтому я ушёл в ЭРЦ. Там проработал до 1959 года.



Сначала думал поселиться в Сибири (Ангарске), но всё же потянуло в родную Украину и «на ура», заехал в Запорожье, где меня никто не ждал – не звал. Да так осел в этом городе. Правда, в 1969 году комбинат вспомнил обо мне и предложил, по старой памяти, поработать ещё. Не удержался я и, бросив всё по течению судьбы, подался туда ещё на три года – в Норильск. Пожалуй, эти три года (как ни странно) и были самыми счастливыми в моей жизни.

И если бы я знал, что когда-нибудь мне придётся писать (мемуары?.. шутка) свои воспоминания, в этот период времени нужно бы собрать богатый материал, но – увы! – тогда я об этом не думал, а возможности были большие. Единственное, что я увёз из Норильска, это несколько любительских кинофильмов да кучу цветных слайдов о самом городе и его окрестностях. Тогда ведь со времени событий 1953 года прошло только 16 лет, и поэтому многие из участников жили в Норильске, – некоторые, как и я, были приглашены в комбинат.

По натуре я человек очень подвижный, увлекался спортом, охотой, туризмом, фотографией, киносъёмкой – и ещё чёрт знает, чем. Поэтому потерю десяти лет лагерей постарался возместить активным образом жизни. К тому же я попал (а может меня и прихватили) в хорошую компанию ветеранов комбината и приходящего им на смену молодого поколения, подавляющее количество которых на 10-20 лет моложе меня. Поэтому приходилось «тянуться», чтобы, как говорят, не ударить лицом в грязь.

Да, было иногда трудно, но и в то же время интересно. Спорт я оставил в 67 лет, семнадцать из которых был играющим тренером по волейболу. Пока что острота памяти мне не изменяет, хотя многого, происходящего в те далёкие годы, попросту не знал.

Поскольку воспоминания многих мемуаристов часто расходятся по кардинальным вопросам, в основу своих замечаний к Твоей книге «Конец Горлага», я взял документальные материалы кандидата исторических наук А. Дугина, ссылающегося на документальные материалы тех дней, в частности, событий лета 1953 года. Чтобы «не блукать», я перешерстил подробно твою книгу, сделал пометки на её полях и буду выражать своё мнение по замеченным мною темам, указывая страницу, строку сверху вниз или снизу вверх. Чтобы было удобно находить нужные места, не тратя время.

Я высказываю только замечания, но никоим образом не навожу критику. Даже не рецензию. Просто вместе приведём всё в нужное русло. Не обидишься? Тем более, что ты сам просил подойти к написанному «строго и не предвзято».

Итак, продолжим?

………………………………………………..
… Пояркова я хорошо знал, он участвовал в кружке КВО ещё во 2-м лаготделении ИТЛ. В проектном отделе на Медьстрое, затем Госстрое, работал Олав Линде копировщиком. Если это тот Линде, то я его хорошо знал, – он пел в эстонском хоре КВЧ.

… Слава Богу, я узнал, что твой номер был Б-952. Мой номер в Горлаге был К-292. Обычно я его набирал в ячейках камер хранения во время командировок.

… Сарычева я хорошо знал, он сидел за ширмой при попытке «кума» завербовать меня в 5 л/о – он был подполковником.

… Вместе со мной в ЭРЦ'е (2 л/о) работал Арнольд Озолыньш, латыш. Если это тот Озолыньш, то резидентом «кума» он вряд ли мог быть. Он был из «лесных братьев».

… Виктор Иванович Лев. С этим человеком я был длительное время в дружеских отношениях. Насколько мне помнится, КТНом он не был. Он выпускник одного из киевских институтов. Человек всесторонне развитый с громадным интеллектом. Фигура одиозная, так и не разгаданная мною. Иногда я с ним был очень откровенным, и многие из солагерников предупреждали меня, что это «охотник за черепами».

Однажды сам он, в упор, спросил меня об этом, на что я ответил: да, предупреждали! В совершенстве владел польским и английским языками. По его словам, отец его был немец, мать – полячка. Иные говорили, что кто-то из его родителей был евреем.

После подавления восстания, моя последняя встреча с ним была, когда группу з/к из числа активистов выводили из БУРа, на этап, видимо, в Магадан. Даже моя связь с ним прервалась. Мои попытки выяснить что-либо по этому поводу в разговоре с Женей Грицяком в 1992 году, ничего не прояснили.

…Глеб Павлович Шейко-Сахновский… Вместе с ним я длительное время работал в Проектной конторе на Медьстрое. Он не профессор – инженер-геолог. Проходил по одному делу с доктором геологических наук, профессором Михаилом Николаевичем Годлевским, моим близким другом до самой его смерти в 1984 году. Они вместе попали в окружение в Эстонии. Причём немцы хорошо знали, что в этом окружении находится звезда мировой величины, майор Годлевский. Пребывая в немецкой оккупации Михаил Николаевич занимался сугубо научной деятельностью при покровительстве видного немецкого геолога, знавшего Годлевского по его научным трудам, ещё до войны.

Пользуясь положением, Михаил Николаевич вытащил Шейко-Сахновского из лагеря военнопленных и фактически спас ему жизнь. Позднее, когда пришла пора реабилитации, Михаилу Николаевичу потребовался свидетель, что, будучи в оккупации, он не работал на немцев, не занимался предательской деятельностью, – и этим свидетелем мог быть



Шейко-Сахновский. Однако последний сказал, что у него нет времени заниматься этими делами, ибо он собирается идти куда-то «с посохом».

Чуть ли не силой его доставили в органы КГБ, где вместе с реабилитацией Гадлевского был реабилитирован и сам Шейко-Сахновский.

В лагерных кругах Глебу Павловичу не доверяли, хотя не берусь утверждать, что он был стукачом.

… Владимир Тильнер и Владимир Ларин… С ними двумя я познакомился ещё в КЭМРе, где Тильнер был прорабом, а Ларин мастером в мехмастерской. Жили мы в составе одной бригады, и спали рядом на нарах. Отличные ребята с незапятнанной репутацией. Несколько мне помнится, ни тот, ни другой в Горлаг не попали, остались в ИТЛ. Но работали на объектах, обслуживаемых Горлагом (Медьстрой и Горстрой).

С Лариным в последний раз я встречался во время своего второго пребывания в Норильске (1969-72), мы оба работали в Управлении энергосистемы комбината.

Наедине друг с другом вспоминали о прошлом, но в широком кругу своё прошлое не афишировали.

… Юшко… Правильно – Юшков Леонид Павлович. Профессор Ленинградского Горного института. Когда бригаду Проектного отдела (ранее располагавшуюся в общежитии здания на Медьстрое), после пуска медеплавильного завода, убрали 5 л/о Горлага и объединили с жившими в 5 л/о работниками проектного отдела, – мы его выбрали бригадиром.

Мужик он был, что называется, пробивной, знал массу анекдотов, чем располагал к себе лагерное начальство, и умел поэтому «выбивать» котловку или одежду. Человек большого интеллекта, но, как говорят, «с закидонами», часто вызывавшими смех у присутствующих.

… Восстание началось 26 мая.

… Знаком я был с Фёдором Семёновичем Морозовым. Он освободился в 1946 году. Если речь идёт о нём, то уголовником он не был, был бытовиком. Работал в КЭМе и на ТЭЦ-1.

… Очередью из автомата Дямлева было ранено семь человек (Климчук, Медведев, Коржев, Надейко, Уваров, Юркевич, Кузнецов). Один из раненых (кто?) скончался.

… На момент восстания директором Комбината был не генерал-майор (а может и подполковник) Владимир Степанович Зверев. Этого Зверева вообще в Норильске не было.

Директором комбината короткое время был другой человек, фамилию которого мне установить не удалось. К заключённым лаготделения явился зам. начальника УВД Красноярского края подполковник Зверев. В.С. Зверева – директора комбината, хорошо знал и сразу обнаружил, что это не тот Зверев, да он и не выдавал себя за директора комбината.

Насколько я помню, начальник Горстроя Дмитрий Муравьёв в военной форме никогда не ходил. Кстати, после своего освобождения, весной 1955 года, с Муравьёвым я часто ходил на лыжах, – и мы не раз вспоминали события 1953 года.

…Владимир Иванович Долгих никогда начальником ГУЛАГа не был. Позднее он был директором Норильского комбината, перед Машьяновым, в период моего второго пребывания.

…Во время забастовки в Горлаге, кроме Горстроя и кирпичных заводов, все предприятия комбината работали, ибо обслуживались лагерями ИТЛ, которые не бастовали. Надо быть объективным, что было – то было. Руду поставлял рудник 7/9 и 3/6.

… Панюков прибыл в Норильск вне всякой связи с восстанием, как замминистра цветной металлургии. Его попросту решили использовать в данной ситуации. В 5л/о Горлага он появился один, без Зверева. Его, правда, не освистали, как Зверева, но разговора не вышло. Что было в 4 л/о и был ли там Панюков – не знаю.

… Налёт группы офицеров на 5 л/о произощёл ночью 1 июня (около 2-х часов ночи). Пожарную машину (одну) перевернули. Офицеров изрядно побили и выдворили из зоны.

…Ананьев. Сволочь первой величины. С ним я столкнулся ещё в 6 л/о ИТЛ, где он был прорабом, а я землекопом в бригаде уголовника Острикова. Он запомнил меня и, в Горлаге напомнил мне о своём «дружке». Но я в это время работал инженером Проектного отдела Горлага.

… Переговоры с активом з/к велись: 6-го июня – в 5, 7-го – в 6, 8-го – в 1, 9-го – в 4 л/о.

После переговоров с ним, все бригады организованно вышли на работу. О переговорах с комиссией представители забастовочного комитета рассказывали в бараках.

…Подавление забастовки в 5 л/о (расстрел) происходило ночью, около 11-12 часов, люди 4 л/о в это время уже спали. При этом было убито 11 человек, ранено 36, из числа которых 12 скончались от ран.

… Подавление восстания в 4 л/о происходило 5-го июля, около полудня. Сам я вышел из зоны со второй партией, у вахты лаготделения. О количестве жертв у мемуаристов единого мнения нет. По документам, расстрела вообще не было, как и не было жертв. Об этом же свидетельствует и Е. Грицяк. Сам я видел, как удачно брошенный камень угодил в голову Кузнецова. Он обливался кровью, но разрешения или команды на применение оружия не давал, – хотя его настойчиво просил об этом нач. воинской части охраны.

… Руководители комбината Полтава и Зверев (как я уже писал – Зверев не директор комбината) в подавлении восстания не участвовали.

…………………………………………



Таковы, в основном, мои замечания. Конечно, я не претендую на истину в последней инстанции, но возможно кое-что ещё нужно поправить для истории. О, если бы у тебя были документальные свидетельства того времени, а они спрятаны под семью печатями, то истину восстановить было бы легко. А так – сколько времени прошло с тех трагических событий!

Но по крупицам, по свидетельствам тех, кто был там, кто участвовал, кто испытал на себе все ужасы советской карательной системы, – внесёт свои дополнения, что-исправит, уточнит, добавит. Это всё ещё впереди, не мы, так наши дети и внуки докопаются до тех засекреченных документов, и правда всплывёт наружу.

Посылаю тебе рисунок, сделанный моим солагерником Вениамином Рагулиным. Он был младшим лейтенантом и служил в Эстонии. Попал по ст. 58-10. Хорошо рисовал и писал стихи к своим рисункам. Жаль, они не сохранились.

Заканчивая своё письмо, желаю Тебе и Твоей семье всего самого наилучшего, прости за задержку письма.

Будь здоров и пусть наступающая весна принесёт тебе прилив сил и энергии. Обнимаю и крепко целую.

Твой *Борис.*

*1.03. 2000*

P.S. Хотел выслать тебе свою карту Норильска, но письмо получилось и так толстым, – поэтому следующей почтой.

…………………………………………………………………

“ *1 серпня 1993 г*

Шановний Друже Гриша!

Твое обурення проти Норильска мені дуже добре зрозуміле.

…………………………………………………………………………

А ў Кіеве супраць мяне паступілі гэтак жа сама, як Нарыльск супраць Цябе. Я цікавіўся ў Макаравай, чаму табе не паслалі запрашэнне. Усё праўды я ад яе да біўся. Яна адказала, што ўключыць колішніх рэпрэсаваных у спісы было вельмі цяжка. Ёй там наківалі: што вы нам усіх рэпрэсаваных падсоўваеце?!”

– Да таго ж, – сказала яна, – што ён ідзе да Кіева, а якія ў яго планы пасля Кіева, я не ведала, ці ён зможа прыехаць.

Але мне здаецца, што правільнейшым ёсць здагадка Формазава. Ён сказаў, што, як ён думае, табе не далі запрашэнне таму, што Ты яшчэ не атрымаў рэабілітацыі. А яны да гэтага пытання ставяцца дужа прыдзірліва. Мажліва, што таму Макарава і не магла Цябе падаць на разгляд адміністрацыі.

З яе слоў выглядае, што яны хацелі і мяне выкрасліць з тых спісаў, але Макарава праявіла ўжо настойлівасць, заявіўшы: “Каго, каго, а гэтага чалавека вы павінны ўключыць у спісы гасцей. Ён яшчэ ў васьмідзясятым годзе надрукаваў за мяжой кнігу пра Нарыльскае паўстанне, і выйшла яна на нямецкай і англійскай мовах, і цяпер яго кніга ўпрыгожвае наш музей…”

І так я прайшоў. Я думаю, што не трэба асабліва абуравацца на музей. Яны ж там робяць вялікую справу. Напрыклад, Макарава едзе 6-га серпня (за кошт свайго адпачынку) ў Маскву, каб пашураваць там па архівах. Ёсць у іхнім музеі фатаграфіі Паўлішына, Бамштэйна, Твая, мая ды іншых. Зразумела, што і мая кніжка, мая даведка пра зняволенне, і завераная натарыўсам мая даведка пра рэабілітацыю.

А ўвогуле то было свята 40-годдзя Нарыльска. Сорак гадоў, як Нарыльску надалі статус горада. Гэта было свята Нарыльскага камбінату.

Нас, гасцей, было дзесьці каля сарака чалавек, астатнія усе нарыльчане.

І што цікава – удзельнікаў паўстання, акрамя мяне, не было нікога. Нікога! Гасцям – у асноўным ветэранам Нарыльска – ва ўрачыстай абстаноўцы раздалі дыпломы “За працоўныя поспехі і актыўную грамадскую дзейнасць горада”.

Давалі яшчэ і альбомы з фатаграфіямі з жыцця нарыльчанаў, наручныя гадзіннікі вырабу нарыльскага камбінату. А пасля ўручэння – банкет.

Калі ўжо ўсе былі на падпітку, да мяне падышоў нейкі чалавек з кіраўніцтва і пацікавіўся, чаму я такі сумны. Адказаў:

– У думках я ў мінулым, і інакшым тут быць не магу. Якая для мяне радасць, калі я чую крыкі і плач нябожчыкаў. Чаму іх не чуеце вы?

Ён нахмурыўся і, не адказаўшы на маё пытанне, гледзячы мне ў вочы, запытаўся:

– Ці багата ў вас зла?

– У мяне зло толькі да сістэмы, а да гэтых людзей ў мяне зла няма. Хацелася б пагаварыць з былымі кіраўнікамі Гарлагу, ці ёсць яны тут? З імі было б цікава пагаварыць.

Ён адышоў ад мяне, і болей мы з ім не гаварылі.

Мне не было там з кім перакінуцца словам. От каб ты быў побач, дарагі дружа! Нам было б пра што з табой пагаварыць, было б!

Пазней мне Ала Макарава казала, што нехта з кіраўнікоў там быў, але мне яго не паказалі.

Пасля прыезду мяне яшчэ запрасілі ў адміністрацыю і папрасілі, каб я ў той дзень нікуды не адлучаўся з гасцініцы, бо да мяне павінна была падысці сцэнарыстка і ўзгадніць са мною мой выступ на ўрачыстым канцэрце.

Але дарэмна я чакаў яе – яна не прыйшла. А на ўрачыстым канцэрце не прысутнічаў, бо мяне ў той час удзельнікі паўстання запрасілі прыйсці да іх на сустрэчу ў музей. Але і іх там было дужа мала – мо чалавек шаснаццаць.



Мы прагаварылі з імі гадзінаў тры, і вырашылі сустрэцца і на наступны дзень. Мы зноў прагаварылі больш трох гадзінаў. Але размовы, якой я чакаў, не атрымалася. Мяне там дужа бракавала Цябе. Як бы мы былі разам, то яксьці дамагліся б, каб нам далі аўтамашыну для паездкі пад Шміціху ды па месцы колішніх зонаў. Для сябе аднаго я таго жадаць не мог, а пешшу тэпаць дужа далёка, ды і непагадзь не спынялася – амаль тыдзень там ліў халодны бесперапынны дождж. А тэмператьура ад аднаго да васьмі цяпла.

Да таго ж у іх няма дажджавой каналізацыі ці сцёкаў, – і ўся вада ад дажджу бяжыць вуліцамі так, што перайсці іх немагчыма, трэба мець гумавікі. Для нас іх не падрыхтавалі…

Так што я наведаў толькі Круглую плошчу, адкуль быў пасаджаны да бура – і болей нідзе. Хіба адно – калі праязджаў з аэрапорту да Нарыльска і потым назад, – бачыў Кайеркан і Надзежду.

Мае землякі, якія з розных прычынаў жывуць там, дужа занепакоены сваім становішчам. Пераехаць ва Украіну не могуць, бо не ведаюць, куды, ды і не ва ўсіх ёсць грошы на пераезд. Кампенсацыю па рэабілітацыі ім не даюць, кажуць: няхай вам Украіна выплачвае.

А калі яны пагодзяцца на адпаведны указ паміж урадамі былых рэспублікаў пра тое, што атрымаюць кампенсацыю усе за месцам свайго цяперашняга пражывання, то ім адказваюць: мы заплацім вам тады, калі вы будзеце рэабілітаваны па законах Расіі. Украіна ўсіх рэабілітуе, а вы ўсе – ворагі Расіі.

Вось так, дарагі дружа! І ў лагеры ярмо ад Расіі, і цяпер яно не знята з шыі былых вязняў! Абсурд і горыч! І – несправядлівасць.

Вось такі пахмурны Нарыльск. І ў той час, не гледзячы ні на што, ён чароўным чынам прываблівае да сябе.

Мы бывалі ў розных месцах, на розных астравах Архіпелагу. І нідзе не хочацца пабыць, а тут чамусьці хочацца.



І яшчэ пра гару Шмідта. Там ёсць збудаваная каплічка, – то яшчэ літоўцы паставілі невялічкі помнічак сваім грамадзянам. А ад нас няма нічога. Як і ад вас. Пра тое варта было б падумаць нашым мемарыялам.

Вось, бадай, і ўсё пра Нарыльск.

Ага, вось яшчэ – быў там і яшчэ адзін былы вязень, які прыехаў у Дудзінку, калі дакладней, то на месца цяперашняй Дудзінкі (быў і на месцы цяперашняга Нарыльска) – першым этапам яшчэ ў 1935 годзе. Цяпер яму – 82 гады.

Бывай здоров! Трымайся!

Пішы. *ЭГ (подпіс)* *(Яўген Грыцяк)*

## *II. Вяртанне*

1

… Калі б усе лісты, што прыносіла паштарка на вуліцу Партовую 10/44 Рыгору Клімовічу, узяць ды надрукаваць асобнай кніжкай, – то іх нельга было б увабраць і ў некалькі тамоў. Кожны ліст – боль і душэўныя пакуты адрасата-паўстанца, якія не сціраюцца з памяці, яшчэ і да сёння хвалююць, ад чаго смыляць раны на сэрцы і душы. Яны крычма крычаць, каб пачулі ўсіх адрасатаў, каб кожны напісаны сэрцам радок гучаў набатам, звонам, склікаючы ўсіх на Вялікі Сход.

На жаль, не ўсе яны і захаваліся. То знікалі, калі ў хату ўрываліся кэдэбісты і чынілі перагрус, а то і без усялякіх пераатрусаў, – некаму ж патрэбны яны былі, сам гаспадар пазбавіцца ад іх не мог.

Але то ўжо, так бы мовіць, іншая гісторыя…

……………………………………………..

Ці адчуваю я сябе шчаслівым, апынуўшыся на волі, вырваўшыся з крывавых лапаў сталінскіх катаў?

Ды я шчаслівы хаця б ад таго, што сустрэў каханне, што маю дачку Людмілу і сына – Юрася.

Я бачу ў іх працяг сваёй справы, свайго змагання за лепшую Беларусь, за светлую будучыню.

Дрэвы пасадзіў, – цэлы сад, хату пабудаваў, нарадзіў дзяцей. Што яшчэ трэба для шчасця? Як кажуць, цяпер і паміраць можна, – але я так не скажу, ня маю права так казаць. Як у песні – паміраць нам яшчэ рана, мы яшчэ не ўсё здзейснілі, што планавалі, мы яшчэ не да канца выканалі клятву паўстанцаў, якую давалі там, у савецка-камуністычных катавальнях-лагерах, што ачысцім сваю Айчыну ад бруду і пошасці, зробім яе шчаслівай.

Так што трэба яшчэ пажыць, каб папрацаваць на шчасце роднай Беларусі!

Памажы нам, Божа!

… Здавалася б, зачарсцвела сэрца ад гарлагаўскіх пякучых маразоў ды сіверных вятроў, забыўся пра позірк дзявочых вачэй, як б'ецца ў грудзях закаханае сэрца, – ды памыляўся Рыгор, ой, як памыляўся! Можа, гэта яго і адзіная памылка за ўсё жыццё!

Няхай яно так і будзе, памылкі бываюць таксама радасныя і прыемныя. І – шчаслівыя.

Ці шчымела ў яго сэрца, калі выбавіўся з савецкага пекла зняволення і кіраваўся на радзіму, у свой родны горад? І сам не ведае. Зачарсцвела яно і ўжо не адчувалася ніякай радасці? І так, і не так…



Ён проста баяўся прызнацца самому сабе, што нічога не адчувае. Ні радасці, ні ўзрушэння, ні… Адно хіба толькі хвалявала ці непакоіла – якія там людзі на волі? Ці памяняліся, ці адчулі, што жывуць не так, як людзі ў свеце, ці памяняўся ў іх светапогляд, – ці па-ранейшаму ходзяць у калонах на дэманстрацыях у дзень бальшавіцкага перавароту ці на першамайскіх святах з партрэтамі тых, хто не дбаў пра народ, а засылаў іх у савецкія душагубкі?

Думаў хіба, як знайсці цяпер  сябе ў тых умовах, ад якіх мо ён і не адвык, але з якімі прыдзецца сустракацца, падпарадкоўвацца нават ім, рабіць выгляд, што ён прымае іх, – а інакш нельга. Мусіш стаць чужым сярод сваіх, ці сваім сярод чужых?

У руках два чамаданы, за спіной – рэчавы мяшок. Ды не з залатых руднікоў-прыіскаў ён прыехаў у родны Гомель, накапіўшы там багацце, набіўшы ім чамаданы, – не… Прывёз ён сапраўды багацце, толькі не матэрыяльнае, а духоўнае. А кішэні пустыя. І гаманец пусты, праўда, гаманца ў яго не было: трымаў некалькі траячак і пяцёрак у патаемнай кішэні сподняй сарочкі.

Калі перад адпраўкай правяралі яго рэчы, калі заглядвалі ў стары, пашарпаны ад часу чамадан, каб пераканацца, што ён не прыхапіў з сабою залатыя зліткі ці забароненую літаратуру, здзіўляліся – ён вёз агульныя сшыткі з нейкімі запісамі. Кант і Гегель, Мах і Плутарх, Сенэка і Гамер… Гэта ён канспектаваў працы вялікіх філосафаў. Праверальшчыкі круцілі пальцамі ля скроняў, усміхаліся:

– І навошта ты столькі часу патраціў на перапісванне іх твораў? Карміць цябе яны будуць, ці што? Замест хлеба?

А ён усміхаўся ў адказ:

– Не хлебам адзіным… Гэта духоўны хлеб, які нічым не заменіш. Вось я гэтым і багаты. Гэта даражэй за золата.

Яны гарталі сшыткі з вершамі Пушкіна і Лермантава, прозай Гогаля і Чэхава… Яны і не ўглядвался пільна ў радкі, гарталі абы выгляд паказаць, што правяраюць. Першую старонку прагледзяць, а астатнія – мімаходзь, не ўнікаючы нават у сэнс.

Нават і не да канца гарталі тыя сшыткі, спрэс спісаныя густым почыркам, у кожную лінеечку, – для іх яны не мелі ніякага сэнсу. Вязе чалавек з сабою макулатуру – няхай радуецца. Ніякіх пракламацый ці лістовак не вязе, адну нейкую лухту. Ну і няхай сабе…

Былы вязень школу разведчыкаў не заканчваў, канспіралогіі не вучыўся. Але тая вучоба, якую ён прайшоў у ГАРЛАГу была значна вышэй і дасканальней, чымся сталінска-берыеўскія навучанні.

Вершы Пушкіна? "Буря мглою небо кроет?.." Так, першыя радкі і наступныя былі эфіопа, які абяцаў Адама Міцкевіча сцерці з твару зямлі за тое, што асмеліўся, удзельнічаючы ў закалотах, выступаць су-

праць цара, – а далей? Не кожны і прачытае радкі, з нейкімі завіткамі, перакручанымі літарамі і словамі…

А там напісана было нешта накшталт: “*мы заявили всей орде кремлёвской святой протест насилию и злу…*» А Чэхаў “апавядаў” у сціслых радках, недзе на сярэдзіне, пра жыццё, якое існавала ў ГАРЛАГу…

Пранесла. А калі б тыя сшыткі глядзеў спецыяліст, то разабраўся б, што да чаго, – і атрымлівай аўтар новы тэрмін, дадатак да тых, што “чаліўся”. Але, калі шчыра, ён не ішоў, так бы мовіць, “у сляпую”. Яго падстрахавалі, сачылі за яго вызваленнем людзі правераныя і адказныя. І было загадана тым правяральшчыкам: “Рыгора Клімовіча не чапаць”. Але ўсё роўна хваляваўся, магло нешта пайсці не так, нечаканая замена ці што іншае, альбо да іншых накіраваць для “досмотра”.

Адзначыў пра сябе вось што. Неба на волі нейкае іншае, воблакі, што плывуць па ім, больш светлыя, нібы бароды тысячагадовых мудрацоў: вецер нейкі іншы, родны ці што, паветра, насычанае пахамі роднай зямлі, было нейкае п’янкое, узбуджальнае …

У ім гаварыў паэт, і ён ужо думкава складаў радкі будучага рэквіема пра сустрэчу горада свайго сына…

*“Якая ты, воля, –*
*Ці вольная ты?*
*Даць табе долю –*
*Абавязак сьвяты…”*

Сышоў з поезда на перон, пачаў углядацца ў твары людзей, што ішлі насустрач ці абганялі яго, – нікога не ўбачыў са знаёмых, ніводнага чалавека. Паведаміць пра свой прыезд каму-небудзь не было магчымасці, і таму і не спадзяваўся, што яго будзе нехта сустракаць.

Пакіраваў убок вуліцы, на якой жыла сястра Паліна. Ведаў, што яна жыла з дачкой Любкай, – як яны там?

Паліна, калі ён пазваніў, і не пытала праз дзверы, хто да яе, – падумала, што нехта з суседзяў. А калі расчыніла дзверы і ўбачыла на парозе незнаёмага чалавека з чамаданамі, здзівілася, уперылася ў яго вачамі, чакала, калі скажа, чаго завітаў да яе.

– Палінка, хіба не пазнаеш мяне, сястрыца мая родная?

Яна здранцвела на момант, потым уздрыгнула ўсім целам, рукамі ўспляснула:

– Божачка! Рыгорка!

Пераступіла парог, адразу кінулася ў абдымкі, прыціснула яго да сябе. І – заплакала. Голасна, з надрывам, як не галасіць пачала:

– Як жа я цябе доўга не бачыла! Вярнуўся! Вярнуўся, родненькі!

А потым, адарваўшыся ад яго, павярнулася да дзяўчынкі, якая стаяла за спіной, усклікнула:

– Любка, гэта ж твой дзядзька Рыгор, вярнуўся з ссылкі!



І дачка, зразумеўшы, што да чаго, падышла да яго і абняла, пацалавала ў шчаку.

Доўга не праходзіла радасць сустрэчы. Гаварылі і гаварылі.

Рыгор распытваў і распытваў пра навіны, пра жыццё ў горадзе, пра знаёмых і сяброў. Нагаварыўшыся ўдосталь, дапытаўшся пра яго планы і будучае жыццё, ведаючы, што яму няма куды прыткнуцца, сказала:

– Будзеш, Рыгор, жыць у мяне. Вунь я табе вызначыла куток і ложак.

– Дзякую, Паліна!

2

У Гомельскім вагона-рамонтным заводзе працавала малатабойцам дзяўчына – Ганна Сёмчанка. Жыла не ў Гомелі. У вёсцы Бушаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Штодня прыязджала раніцай на працу.

Спачатку ўзялі яе вучаніцай, а потым, калі прайшла курс асвойвання гэтай прафесіі, стала малатабойцам.

Дужая, добрага целаскладу, прыгожая. Хлопцы заглядваліся на яе. Але і рэзкая была – калі што не па ёй, то і сказануць нешта магла злое, каб адпрэчыць таго, хто быў ёй не даспадобы. А то магла і кулак паказаць – яны ў яе былі не меншыя за мужчынскі.

Ведаючы яе характар і незалежнасць, з пустымі гаворкамі ці прыставаннямі не лезлі, бо ведалі, што лёгка можа адпрэчыць ці высмеяць.

Заўважыла аднойчы, што як толькі пачынаецца абедзенны перапынак, людзі спяшаюцца ў той пакой, дзе распранаюцца мужчыны. А потым, праз нейкі момант, чуваць з той распраналкі гучны рогат.

Раз не звярнула на тое ўвагі, другі, падумала, што мужчыны там мо анекдоты салёныя “травяць”, мацюкаюцца, – а яна не любіла гэтага, абыходзіла.

А потым не вытрымала, нешта пацягнула яе туды, як магнітам прыцягваў той пакой. Туды не заходзіла, стаяла ля дзвярэй, каля стэнда пра ахове працы, рабіла выгляд, што ўважліва чытае…

– Дык там, у Нарыльску, я пасадзіў сад і адныя грушы ў ім раслі, ды адныя бэры, па пуду кожная, – нехта з рабочых апавядаў пра свае прыгоды.

– Як гэта можа быць, Рыгор, – у тых жа краях холадна і адны маразы? – нехта папытаўся ў яго.

– А я клаў кастры, зямля адтайвала, а грушы зацвіталі. Але толькі ноччу…

Нейкі момант маўчанне, а потым выбух рогату.

А потым адна гісторыя цікавей за папярэднюю, – то сур’ёзны аповед, а то з жартачкамі. Як магнітам прыцягвала туды рабочых. Яны і абедалі адначасова, і слухалі баюна-апавядальніка…

Хацела зазірнуць туды праз дзверы, каб паглядзець на таго, каго так уважліва слухалі, ды нечага не асмельвалася.

Ішла аднойчы па пляцоўцы цэха, а насустрач невысокага росту хлопец. Спыніўся, паглядзеў здзіўлена на яе:

– Чаго гэта я раней цябе не бачыў? Абыходзіла бокам?

– Мо і абыходзіла, а табе што?

Яна пазнала яго па голасе, гэта ён у распраналцы смяшыў рабочых, памыліцца яна не магла, слых у яе быў адметны.

– Ды нічога. Мусіць, малатабойцам працуеш, кулакі вунь якія.

– Так, малатабоцам. Мо паборaемся?

– Ды не, не трэба, шаноўная, дзякую. Ведаю, што пераможаш, – засмяяўся ён, і, перайшоўшы ўжо на сур'ёзны тон, спытаў: – І як жа цябе, малатабойца, завуць?

– Ганнай бацькі назвалі. Ганна Сёмчанка. А цябе?

– Рыгор я. Рыгор Клімовіч.

Такім было іх знаёмства. Тады размова не атрымала працяг – ёй трэба было спяшацца да працоўнага месца, а яго выклікалі да начальства.

Але, як потым прызнаецца Рыгор, вочы яе пранізалі яго, кранулі яго сэрца.

3

Падказалі ці параілі яму пайсці на рамонтны завод новыя знаёмыя, якія там працавалі.

На руках ніякіх дакументаў – ні атэстата сталасці за дзесяцігодку, ні пра тое, што ён быў студэнтам навучальнай установы – скончыў індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. Напісаў у анкеце “няскончанае вышэйшае”, паабяцаўшы з цягам часу аднавіць свае дакументы і паказаць іх у аддзеле кадраў.

Яму паверылі, прынялі на працу. Простым рабочым пайшоў. А потым, убачыўшы, што ў ім ёсць арганізатарская жылка, прапанавалі брыгадзірам.

А потым стаў і майстрам.

Умеў ён наладжваць стасункі з любым чалавекам – няхай ён просты рабочы ці дырэктар завода, валодаў нейкай таямнічай сілай, няйначай, пры тым сілай з дадатнай энергіяй. Субяседнік, паслухаўшы яго, праз колькі хвілінаў цалкам давяраў яму.

Так і з Ганнай здарылася. Тая першая размова раскрыла перад ім чалавека незвычайнага і цікавага. Па сялянскай сваёй мудрасці ў голасе яго пачула нешта пераканаўчае і сур'ёзнае, падумала яшчэ, што ён не здольны хлусіць.

Недзе прыблізна так падумаў пра яе і Рыгор.



Асабліва пра жыццё яе не распытваў, не падганяў падзеі. Але асмеліўся запрасіць дзяўчыну на спатканне. У кіно схадзілі, на танцы.

А потым… У Гомель прыехала нейкая тэатральная трупа і паказвалі ў чыгуначным Палацы культуры оперу Пучыні “Чыа-Чыа-сан”.

– Ты калі-небудзь была ў оперы? – запытаўся закаханы хлопец у дзяўчыны.

– У оперы? – падзівілася яна. – Чула нешта такое, але ніколі не была. Ці да гэтага мне было?

– Не была, дык пабудзеш. Заўтра мы будзем з табой глядзець оперу Пучыні пра Батэрфляй, так звалі па-ангельску японскую дзяўчыну. Галоўны сюжэт – няшчаснае каханне…

Ён падрабязна расказваў і пра лейтэнанта Пікертона, у якога было на мэце “зрываць кветкі, дзе толькі магчыма”, пра консула Шарплеса, пра Гору – прафесійнага японскага свата…

– Адкуль ты пра ўсё гэта ведаеш? – шчыра падзівілася Ганна.

– Ды там, у бібліятэцы турмы, дзе знаходзіўся… Начытаўся я там усяго, і даведаўся шмат пра што.

Потым, пазней, яна прызнаецца сыну Юрасю пра свае адчуванні. Дзяўчына з вёскі, якая мела ўсяго чатыры класы адукацыі, а тут перад ёю адукаваны і ўсёведаючы чалавек, – адчувала сябе няёмка.

І была опера, у якой Ганна нічога не разумела, зыркія люстры на сцэне, плюшавыя канапы і спевакі, якія спявалі, а пра што, яна не разабрала. І ў перапынках ён частаваў бутэрбродамі і сітром, а вакол людзі ў святочным адзенні, асабліва жанчыны, – для яе гэта было ўпершыню ў жыцці, і яна запомніла той паход у тэатр як найвялікшае свята, якое адбылося ў яе жыцці.

Тыдзень яны праводзіліся, а потым Рыгор сказаў ёй:

– Да тваіх бацькоў у вёску паедзем. У госці. Пачастункаў накупім, падарункаў.

Прыехалі ў Бушаўку пад абед. Ганна вяла Рыгора да свайго селішча. Спыніліся каля хаты, якая стаяла пад высокай ліпай.

– Вось тут, Рыгор, я і жыву…

Пераступілі веснічкі, увайшлі ў двор. На ганку стаяў гаспадар, са здзіўленнем паглядаў на гасцей.

Ганна падышла да яго, абняла яго, прамовіла:

– Тата, гэта Рыгор, пра якога я табе расказвала. Вось у госці прыехалі.

На твары бацькі з'явілася ўсмешка:

– У госці – гэта добра. Мы гасцям заўсёды рады. Запрашаю, Рыгор.

І тады толькі ён крануўся з месца, падышоў да Панаса і моцна паціснуў руку. Поціск быў моцны, быццам абцугамі гаспадар абхапіў яго руку.

– Рыгор Клімовіч, – назваўся госць.

– А я – Апанас Іванавіч. Прашу, заходзьце ў хату.

Выклалі на стол усе падарункі-пачастункі. Рыгор агледзеў хату – звычайнае жытло, якое бывае у вяскоўцаў, але адчувалася, што ў хаце падтрымліваецца парадак і чысціня.

Доўга яны гаварылі тады з бацькам Ганны. І шмат чаго Рыгор даведаўся пра сям'ю, пра род Сёмчанкаў.

Жыццё Апанасу Іванавічу выпала цяжкае, што, так бы мовіць, і ворагу не пажадаеш. Вайна прынесла шмат пакутаў людзям, шмат выпрабаванняў і цяжкасцяў выпала на яго долю.

Васьмёра дзяцей… Калі пачалася вайна, старэйшая дачка Ева была замужам, у яе было ўжо пяцёра дзяцей. Мужа яе, Марка, які пайшоў на фронт, забілі ў першыя дні вайны – на чыгуначнай станцыі. Апанас ўсклаў на сябе абавязак клапаціцца пра пяцярых дзяцей. Узваліў на сябе такі воз. Старэйшы сын яго, Фомка, быў таксама жанаты, а астатнія ўсе былі пры ім. Да ўсіх дадалося яшчэ пяцёра. Цётцы Еве дасталося нялёгка…

Апанас Сёмчанка са сваёй жонкай Хрысцінай узялі на сябе абавязак і клопат ўратаваць жыцці дзяцей.

А яшчэ ж і пад немцам, у акупацыі, калі ніякай дапамогі ні ад кога не было. Ды адкуль ёй узяцца, калі іншы, не савецкі лад быў на вёсцы. І ў гэтых новых умовах трэба было неяк прыстасоўвацца, выжываць, каб не памерці з голаду.

Слухаў і слухаў Рыгор Клімовіч споведзь Апанаса Сёмчанкі, галавой хітаў, здзіўляўся, як гэта ён, Апанас са сваёй Хрысцінай, усё гэта мог вытрываць, ды і не толькі вытрываць, а пракарміць такую плойму. Гэта неверагодна, гэта не пад сілу нават у мірны час, а тут…

Ці спаў калі Апанас, ніхто не ведаў: клаўся апошнім і ўставаў раней за ўсіх, як і Хрысціна. Грыбы пайшлі – усе дзесяцёра з гаспадаром у лес. Дзякуй Богу, у суседа была кабыла Машка, "пазычыў" на паўдня. Цэлы воз назбіралі грыбнікі лясных дароў. Прывезлі дадому – і пачалі сушыць у печы, мачыць у бочачцы. Смажыць на патэльні, тлушчам заліваць, каб і на зіму захавалася.

Непадалёк саджалка знаходзілася. Зноў Апанас просіць суседа Міколу, каб Машку даў. Ужо адных хлопцаў, без дзяўчат, браў з сабою. І з кломляй, топчуць у саджалцы ўюноў, на бераг выносяць, у кашы складваюць. Цэлы воз іх ловяць, дадому вязуць. Таксама сушаць, каб потым, зімой варыць з імі капусту ці буракі, – каб на ўсіх хапіла.

За савецкім часам, пад вёскай Ткалеўкай, бульба ў полі расла, дык у закінутым полі і гнілушкі мёрзлыя збіралі, перакапаўшы ўсё поле, крухмал выраблялі. А потым варылі разам з сухімі чарніцамі, кісель кісласалодкі гатавалі.

Ды і ніхто доўга з дзяцей у ложку не залежваўся, ніхто не загадваў, але яны самі ўскоквалі са сваіх лежбішчаў і ўпрагаліся ў любую працу…



– Дасталося вам, Панас Іванавіч, дасталося.

– Ды не, Рыгор, не дасталося, я проста шчаслівы чалавек, што мне выпаў такі лёс. Я ўдзячны Богу, што Ён даручыў мне такое выпрабаванне, з якім я справіўся. Табе ж не лягчэй было ў сталінскіх лагерах, ці не так?

Ён спадабаўся Рыгору сваёй разважлівасцю і мудрасцю, працавітасцю і розумам. Моцна збіты, шыракаплечы, рукі ўчэпістыя і жылістыя, позірк пранікілвы і добры, голас упэўнены і прыглушаны.

І Хрысціна спадабалася. Як і гаспадар. У нечым падобныя былі. Ад іх сыходзіла сялянская мудрасць і разважлівасць. Грунтоўнасць. Строгасць ва ўсім. Нават у выхаванні. Гультаёў не выгадавалі, а кожнага прывучылі да працы, як бы загадаўшы і патлумачыўшы, што чалавек усё жыццё павінен працаваць. І Ганна падалася ў горад, каб зарабіць якую капейчыну і дапамагчы, аддзячыць родным за клопат пра яе…

Панас ніколі ў калгас не ўступаў, як ні стараліся яго залыгаць. Але каб не абрэзалі соткі, каб каняку ад калгаса калі-нікалі далі, то дамовіліся абодва, што гэты савецкі прыгонны воз будзе цягнуць Хрысціна, а яму, Панасу, трэба грошы зарабляць, каб дзяцей пракарміць. Таму то ў леспрамгасе працаваў, то на сезонных якіх працах, на чыгунцы, то ў лясніцтве…

Колькі іх усіх было?

Першая дачка Ева, два сыны – Фама і Васіль, а потым – Наталля, Ганна за імі, што пабралася з Рыгорам, Кацярына і Варвара. Маленькай памерла…

Калі селі ўсе разам за стол, калі выпілі па шкаліку вішнёвай наліўкі, набраўшыся, так бы мовіць, рашучасці і смеласці, звярнуўся Рыгор да гаспадароў:

– Ці згодны вы, мае дарагія Панас Іванавіч і Хрысціна Фёдараўна, аддаць дачку мне ў жонкі?

Ганна зачырванелася, галаву апусціла, – не чакала, што Рыгор звернецца да бацькоў з такой прапановай. Думала, спадзявалася, але ўсё роўна адбылося неяк нечакана.

Панас і Хрысціна пераглянуліся, усміхнуліся, і гаспадар прамовіў:

– Як па душы вы адно аднаму, то і нам радасць. Даем згоду, няхай Бог вам памагае. Дабраслаўляем вас!

Маладыя знялі куточак у гаспадароў, што жылі па вуліцы Вароўскага, пасяліліся там. А потым ужо, і тое было ў 1961 годзе, перайшлі жыць у камуналку. На Камсамольскай вуліцы. А потым кіраўніцтва завода выдзеліла ім двухпакаёўку, дом знаходзіўся на вуліцы Партовай.

Першай нарадзілася дачушка Людміла ў 1959 годзе, а пасля яе, у 1961 годзе нарадзіўся Юрась.

Рыгор Клімовіч у гэты час перавёўся працаваць на цукеркавую фабрыку "Спартак". І жонку туды забраў з сабою, вызваліў ад цяжкай працы з молатам. Ганна ўпершыню ўбачыла, як "нараджаюцца" цукеркі, і што іх вырабляць – праца не з лёгкіх, але не так, як працаваць з молатам.

Рыгору прызналася, што цукерку яна паспытала, калі было ёй васямнаццаць гадоў. Стала каля канвеера, па якім рухаліся лікёрачныя цукеркі. Напачатку сліна з'явілася ў роце, адарваць вачэй не магла ад іх, так і падмывала нешта ўзяць хаця б адну ды паспытаць, да і не ведала, ці можна такое рабіць.

Не ўтрымалася, калі нікога не было, наважылася ўзяць адненькую… Дакранулася да адной – а яна ліпкая, што і ў руку нельга ўзяць, толькі пальцы заквэцала. Так і не паспытала, да рота не магла данесці. Пасля таго ніводнага разу не спрабавала браць іх з канвеера.

Але потым, калі сказалі, што кожны працаўнік можа іх з'есці на працы столькі, колькі захоча, "збіла аксаміну": ад'елася. А потым ужо і не хацелася, не прыцягвалі ўвагу – ні шакаладныя, ні карамелькі. Здаволілася.

Люда пайшла ў школу ў 1965 годзе, а Юры праз два гады.

У школу № 11. Юры перавёўся ў клас з матэматычным ухілам. Матэматыку выкладаў Зіновій Абрамавіч Расін, вядомы на ўсю вобласць матэматык. Што адметна, ён быў невідушчы. Любую формулу ці ўраўненне беспамылкова мог напісаць на дошцы. У 75-м годзе яго адправілі на пенсію, але вучні класа ўзбунтаваліся і патрабавалі вярнуць настаўніка ў клас. Вярнулі.

Клас быў адметны, адзін на ўвесь Гомель.

Дзіўна, але настаўнік памятаў прозвішчы кожнага вучня, чуў і бачыў нейкім нябачным зрокам таго, хто мог устаць і хадзіць па класе. Тое ўсе ведалі, і не давалі нагоды, каб ён рабіў нейкія заўвагі. Падчас вайны ён працаваў перакладчыкам.

Адметнае што яшчэ, калі гаварыць пра клас. У ім на 25 чалавек 13 было тых, хто скончыў вучобу з залатым медалём. І дзякуючы, канечне ж, Расіну.

Матэматыка расшырала гарызонты мыслення, і Юры Клімовіч пачаў сур'ёзна займацца шахматамі. Прафесійна. І стаў кандыдатам у майстры спорту па шахматах.

Зіновій Абрамавіч яшчэ быў і вялікім жартаўніком. Ён кожнаму з класа даваў нейкія мянушкі. Клімовіча ён называў заўсёды "маэстра". Ён адштурхоўваўся ад шахмат, у якіх Юры перамагаў многіх вядомых шахматыстаў абласнога маштабу, таму, калі трэба было яго выклікаць, загадваў: "Маэстра, да дошкі!.."



Як здавалі экзамены, напрыклад, у дзясятым класе? Клаўся на стол білет, які складаўся з чатырох пунктаў-задач – для паступаючых на матэматычны факультэт МДУ. Там давалася на абдумванне чатыры гадзіны, а Расін вучням адводзіў усяго дзве.

А адзнакі выстаўляліся наступным чынам. Калі вучань рашаў хаця б толькі адну залачку з чатырох, то настаўнік ставіў "тройку". Калі ж удавалася справіцца яшчэ з адной, то ставілася "чатыры". Калі ж тры з чатырох, то атрымоўваў "пяцёрку". А калі чатыры, то… Але вышэй "пяцёркі" адзнакі не было, але Расін задаволена мог сказаць: "Вяршыня скарылася…"

Ён нават высока ацэньваў не тых, хто паспяхова спраўляўся з задачай, а як мысліў ці думаў вучань. Тое было для яго галоўным.

Юры Клімовіч паступіў на эканамічны факультэт Гомельскага універсітэта, а сястра – на біялагічны.

Дарэчы, калі Юры паступаў, а было да пяці чалавек на месца, – здаваў пісьмовую матэматыку, быў у ліку дваццаці чалавек, якія напісалі на "выдатна". Вось што такое азначае клас з матэматычным ухілам!

Калі прыйшоў Юры да свайго выкладчыка, той, зразумеўшы ўсё, прамовіў:

– Адчуваю тваю радасьць, што здаў. Віншую! Брава, маэстра!

Алёхін, падчас акупацыі, даваў бой сарака шахматыстам усляпую. Ён быў не сляпы, але ў думках бачыў кожную ў паасобку дошку. І – выйграў, чым здзівіў нямецкіх афіцэраў.

Сястра Людміла пабралася з хлопцам з яе ж факультэта – Аляксандрам Самошам. Нарадзіла двое дзяцей – Лену і Віку. Жывуць у Гомелі. Сёння ўжо і дочкі павыходзілі замуж…

У Юры складанасці адбыліся. Першы раз жаніўся, ды нешта не пайшло сямейнае жыццё. Як сам прызнаваўся, па маладосьці абодва не да канца прыдалі значэння сямейнаму жыццю, – як ён, так і Людміла. Нарадзілася дачка – Віялета. Ёй ужо каля трыццаці год.

Шэсць год назад другі шлюб – з Марыяй. Нарадзілі траіх дзяцей – Алёна, Аляксей, Вольга, а нядаўна нарадзілася чацвёртае – Алімпіяда. Так што прадаўжальнік роду Клімовічаў будзе доўжыць Аляксей.

Ці сачылі за лёсам сына Рыгора Клімовіча КДБ? Ён спачатку і не ведаў пра тое, пакуль… Паехаў на заробкі ў 1985 годзе, як казалі тады – "на фасады". Жылі ў інтэрнаце горада Аўлатыр Чувашскай АССР. А праз нейкі час прыходзіць да яго брыгадзір і цікавіцца: "Юры, ты часам на ўліку КДБ не стаіш? Першы намеснік Аўлатырскага выканкама цікавіцца тваёй асобай".

Аж туды дапёрлі. Значыць, слежка за ім дацягнулася і туды. Бацькам па тэлефоне званіў штотыдзень, яны і праслухалі.

Тады вывад.

У тыя часы бацька, Рыгор Сяргеевіч, не мог пісаць нейкія ўспаміны. Ён іх трымаў толькі ў галаве і вёў перапіску з сябрамі, якія разам з ім былі за калючым дротам. Калі б пісаў, ды калі б тое ўбачыла вока кэдэбіста, – зноў загрымеў бы Клімовіч на дзясяткі гадоў у зняволенне…

Пісаў прозу. Распачынаў раман "Дубы", паралельна – "На Казарынскіх азёрах", пісаў нарысы пра знаёмых і сяброў. Адным словам, без працы не сядзеў, – адзін тоўсты агульны сшытак запаўняў тэкстам, другі, трэці… Іх назбірвалася шмат, дзясяткі.

А памяць чэпка трымала той час, калі "чаліўся" ў Гарлагу. Па начах сніліся вязьні, – як мужчыны, так і жанчыны, наглядчыкі сніліся са звярынымі мордамі, бо чалавечых твараў не мелі; забітыя сябры і таварышы сніліся, найбольш да яго звярталіся за нейкай парадай ці самі нешта прапаноўвалі. Сны былі то спакойныя, то страшныя – з аўтаматнымі чэргамі, і абавязкова куля ўпівалася ў яго цела – і ён пачынаў крычаць, курчыцца ад болю… І тады ўжо Ганна штурхала яго пад бок, вырывала яго з пачварных абдымкаў чырвонапагоннікаў.

А ў яго да апошняга часу ў памяці той эпізод, калі малады хлапец, з усмешкай на п'янка-вясёлым твары, паліваў свінцом вязняў. Яны, ускрыкваючы, падалі побач ці то мёртвыя, ці параненыя… А салдацікі рагочуць, яшчэ больш п'янеюць ад паху чалавечай крыві, – яны ўжо тады здавалі экзамены на сталінскіх катаў, смерці людзей іх ужо не кранала, а ўзбуджалі яшчэ больш…

У сне сябры нешта шапталі асмяглымі вуснамі, прасілі роспачна: "Застанься, Рыгор, жывы… Просім – напішы пра нашыя з табой пакуты…" Ён помніў імёны і прозвішчы кожнага, ведаў, хто з іх сапраўдны змагар, хто ні пад якімі экзекуцыямі не выдасць сваіх сяброў, не здрадзіць агульнай ідэі.

То калі пачаў ужо кіраваць краінай Генсек Міхаіл Гарбачоў, калі з грамадства скінулі путы, прыйшла свабода слова, – тады толькі былы кіраўнік паўстання ў Гарлагу Рыгор Клімовіч ўзяўся апантана за пяро…

І яму для таго, каб праўдзіва напісаць успаміны, прыйшлося па другім разе «адбыць» свой тэрмін, але на гэты раз ён добраахвотна адправіўся туды – у свой барак, да сваіх сяброў. І тады ўжо ніводная дэталька не выпала з-пад яго ўвагі, да драбніц апавядаў пра лагер. А калі што і выпала з яго памяці, на дапамогу прыходзілі сябры-вязні, – ён іх таксама "адправіў" туды, нават і без іх згоды…

І разам праводзілі Вялікі сход. Нават не сход, а Суд. Вялікі Суд. На якім былі пракуроры і суддзі, абвінаваўцы і зэкі, сведкі і здраднікі, – і галоўны Суддзя, які вяршыў той суд, – Сумленне. І кожны атрымаў, так бы мовіць, па заслугах. І прагучэў апошнім словам праклён той сістэме, якая ператварыла сваю краіну ў Вялікі канцэнтрацыйны лагер імя Іосіфа Сталіна.



4

Дзень сённяшні, дзень-водгук тых падзей…

І прыйшла нечаканая сумная вестка з Украіны: пайшоў з жыцця адзін з лідэраў, паплечнік Рыгора Клімовіча, Нарыльскага паўстання Яўген Грыцяк. 14 траўня перастала біцца сэрца адважнага ўкраінца – змагара супраціву.

"На 91-м годзе жыцця пайшоў у іншы свет адзін з лідараў палітычных вязняў, якія выступілі супраць рэжыму ГУЛАГа падчас Нарыльскага паўстання ў 1953 годзе, якое разбурыла і ўзарвала ГУЛАГ", – сказаў дырэктар Украінскага інстытута нацыянальнай памяці Уладзімір Вятровіч.

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка: "Захаваем у сваёй памяці і сэрцы яго прыклад як непарушнасць духу і волю да барацьбы за свабоду!"

Яўген Грыцяк нарадзіўся 9 жніўня 1926 года ў вёсцы Стэцаўка Івана-Франкоўскай вобласці.

У 1949 яго арыштавалі НКУС і прыгаварылі да смяротнай кары, якую потым змянілі на 25 год пазбаўлення волі. У лагерах ГУЛАГа Грыцяк актыўна супрацьстаяў лагернай адміністрацыі, за што меў 42 дасцыплінарных пакаранні. У 1953 годзе стаў адным з лідэраў паўстання палітычных зняволеных Нарыльскага канцлагера. Яно доўжылася з 26 траўня па 4 жніўня.

Гэта было самае першае і самае масавае выступленне пасля смерці Сталіна. Вязні сабралі мітынг, на якім выступілі Яўген Грыцяк і Рыгор Клімовіч, іншыя актывісты, – яны заклікалі распачаць забастоўку і адмовілся вяртацца ў жылую зону.

Вызвалілі вязня ў 1956 годзе. Вярнуўся на радзіму, але праз тры гады яго прапіску адмянілі, і ён быў вымушаны з'ехаць у Караганду. Там зноў арыштавалі 28 студзеня 1959 года.

У 1964-м тэрмін зняволення скарацілі да 10 гадоў.

Пасля вызвалення вярнуўся дадому. Жаніўся. У сям'і нарадзілася дачка.

Апошнія гады Яўген Грыцяк жыў у Прыкарпацці – у Івана-Франкоўскай вобласці, Сняцінскага раёна, у сяле Вусьце".

5

… У сталінскіх лагерах адбывалі тэрмін тысячы і тысячы беларусаў. У канцы свайго дакументальнага рамана "Канец ГАРЛАГу" Рыгор Клімовіч прыводзіць спіс беларусаў, якія ўзначальвалі падчас Нарыльскага закалоту беларускую грамаду. А яна ў сваю чаргу налічвала ў Гарлагу больш як пяць тысячаў чалавек.

"Менавіта дзякуючы гэтым людзям, – дадае аўтар раману, – нашыя суайчыннікі падчас закалоту (паўстання) паказалі сябе найбольш арганізаванымі і стойкімі".

Вось іх імёны:

1. Бабіч Янка – Глыбокае, сябра Саюза Беларускіх патрыётаў, навучэнец педвучылішча: падчас паўстання быў целаахоўнікам Рыгора Клімовіча.

2. Бягом'я Уладзімер – Глускі раён; селянін.

3. Байда Уладзімер – Магілёў; пілот, першы беларус – Герой Савецкага Саюза. Уваходзіў у склад паўстанцкага камітэту 5-га аддзялення Гарлагу.

4. Барысенка Міхась – Гомель; мастак.

5. Бічэль Станіслаў – Берасцейская вобласць; інжынер-будаўнік; у Гарлагу быў прызначаны начальнікам будаўніцтва шыхтавага корпусу Медзеплавільнага завода.

6. Забэйда Уладзімер – Ляхавічы; загінуў падчас паўстання.

7. Ермаловіч Віктар – Віцебская вобласць; студэнт.

8. Каваленка Леў – Менск; юрыст; уваходзіў у склад паўстанцкага камітэту.

9. Казак Кастусь – Маладзечна; тэхнолаг.

10. Каўтуноў Іван – Гомель; настаўнік.

11. Конан Мікола – Паставы; сябра Саюза Беларускіх Патрыётаў, навучэнец педвучылішча.

12. Конанаў Іван – Мінская вобласць; слесар.

13. Крот Сямён – Глуск; вучань 9-га класа, таленавіты шахматыст; падчас паўстання і потым быў скарбнікам узаемадапамогі беларускай лагернай абшчыны.

14. Ліс Мікола – Бярэсце; электрык.

15. Мілевіч Алесь – Браслаў; эканаміст.

16. Мінец Віктар – Менск; друкар.

17. Навумовіч Іван – Менск; інжынер-будаўнік; у Гарлагу быў начальнікам будаўніцтва канвертарнага цэха Медзеплавільнага завода.

18. Раманчук Іван – Гародня; настаўнік.

19. Сафрановіч Юля – Менская вобласць; настаўніца; уваходзіла ў склад паўстанцкага камітэта 6-га жаночага аддзялення.

20. Стэльмах Уладзімер – Віцебск; тэхнік.

21. Хромчанка Мікола – Касцюковічы; нарміроўшчык.

22. Шавейка Алесь – Віцебская вобласць; геадэзіст; загінуў падчас паўстання.

23. Шэйбак Анатоль – Пінск; навучэнец.

24. Шчэрбач Васіль – Касцюковічы; інжынер.

25. Ягоўдзік Мікола – Глыбокае; інжынер.



Гэты спіс далёка не поўны, ён вялікі і вялікі. Але прайшло столькі часу, не ўсё засталося ў памяці. Таму няхай мне даруюць тыя беларусы, прозвішчы якіх я тут не назваў. Але яны засталіся у памяці гісторыі.

Вечная памяць тым, хто загінуў у сталінскіх лагерах, шчырая павага і гонар жывым! Жыве Беларусь!

З павагай Рыгор Клімовіч.

…………………………………………………………………..

## *Замест заключэння*

Кожны год напрыканцы траўня, у тыя дні, калі пачаўся ў Гарлагу закалот і які доўжыўся сорак сутак, – мы збіраемся разам і ўшаноўваем памяць пра паўстанцаў духу.

Мы аддаем пашану ўсім паўстанцам розных нацыянальнасцяў, і асабліва аднаму з кіраўнікоў таго закалоту 1953 года ў Нарыльску – вязню савецкай сістэмы, непрымірымаму "антысаветчыку", як яго празвалі кэдэбісты і чыноўнікі, – шчыраму і адданаму сыну Беларусі, змагару за лепшую долю краіны, Рыгору Сяргеевічу Клімовічу.

У розныя гады розныя людзі ўспаміналі і ўспамінаюць сёння мужнага паўстанца духу.

Святлана Гальдадзэ, былая старшыня Гомельскага гарвыканкама:

– Цудоўны, светлы чалавек Рыгор Клімовіч. З ім прыемна было гаварыць. Тады, як мы пачыналі адраджэнне мовы і культуры, дзядзька Рыгор, як мы яго называлі, прапаноўваў праводзіць розныя імпрэзы, сустрэчы, вечары памяці пра нязломных людзей Беларусі…

У ім жыў шляхецкі дух, упэўненасць, нязломнасць.

Алесь Зінчук – былы намеснік старшыні гарвыканкама:

– Мы запрашалі Рыгора Сяргеевіча на ўсе імпрэзы. Ён усюды і заўсёды выступаў на роднай мове, паказваючы прыклад астатнім, што нельга жыць у сваёй Беларусі, а гаварыць на мове той жа суседняй дзяржавы.

Мікола Засінец – былы загадчык аддзела адукацыі гарвыканкама:

– Ён быў душой адраджэнцаў. Мы яго запрашалі ў школы, каб выступіў перад школьнікамі. Яго слухалі з цікаўнасцю як вучні, так і настаўнікі. Ён раскрыў вочы на тыя факты, якія існавалі ў савецкай сістэме, але пра якія не ведалі.

Ён пісаў і занепакоеныя артыкулы, друкаваў у газетах. Гэта быў чалавек шчыры і адукаваны, быў дасведчаны ў розных сферах культуры і пісьменства.

Алесь Яўсеенка – грамадскі актывіст:

– Рыгор Клімовіч і Цімох Вострыкаў былі амаль заўсёды побач з намі і сярод нас. Яны, так бы мовіць, зараджалі нас сваёй энергіяй, сваёй апантанасцю. Яны былі як штандары наперадзе нас, і мы смела крочылі разам з імі ў заўтрашні дзень. Раней бы сказалі пра іх як пра людзей, якія займаюць жыццёвую актыўную пазіцыю. А яны былі звышактыўныя.

Мы шмат чаму навучыліся ў іх, асабліва ў дзядзькі Рыгора.

Мы працягваем іх справу, бо яны сцяг змагання перадалі нам.

Алесь Міткавец, настаўнік гісторыі:

– Калі ён выступаў перад вучнямі ў маім класе, то гэта было сапраўднае свята, свята адкрыцця невядомых фактаў з нашай гісторыі.

Спіс людзей, якія гаварылі добрыя словы пра паўстанца духу, можна доўжыць і доўжыць. Іх усіх і не пералічыць. Але яны і сёння праяўляюць актыўнасць у змаганні за лепшую Беларусь, пра якую марыў і змагаўся ў сталінскіх лагерах Рыгор Клімовіч!

Жыве Беларусь! Паўстанцам і змагарам слава!

*2018 год*
*Гомель*

***Дадатак, без якога не абысціся...***

У прадмове да сваёй кнігі Рыгор Клімовіч піша:

– Беларускі чытач, напэўна, зробіць мне папрок за тое, што свае ўспаміны пра супраціў у ГУЛАГу я выдаю на расейскай мове.

І папрок такі будзе слушным, з такім папрокам нельга не пагадзіцца. Сёння на Беларусі адраджаецца аўтарытарны рэжым, і таму кожны сумленны беларус мусіць удзельнічаць у супраціве гэтага рэжыму з тым, каб адстаяць сваю нацыянальную годнасць і свой народ – як адметную этнічную супольнасць. І лёзунг нарыльскіх паўстанцаў – «Свабоду чалавеку! Свабоду народам!» – ёсьць актуальным для сучасных беларусаў. Да ўсяго гэтага я стаўлюся з поўным разуменьнем.

Але мае ўспаміны не пра супраціў беларусаў, а пра супраціў у ГУЛАГу, у якім утрымліваліся вязьні ўсіх народаў СССР, Эўропы і Азіі; у якім мовай міжнацыянальных зносінаў – мовай ГУЛАГу – была расейская мова. І я ня стаў ігнараваць гэтую акалічнасць, хацелася, каб як найбольш людзей прачыталі маю балючую споведзь.

Мне хацелася б яшчэ, каб мае ўспаміны былі помнікам ня толькі беларускім вязьням, а ўсім вязьням ГУЛАГу – жывым і тым, хто загінуў, – якія, ахвяруючы сабой, удзельнічалі ў поўным трагізму супраціве камуністычнага рэжыму і, дзякуючы якім, сотні тысячаў вязьняў розных нацыянальнасьцяў выйшлі на волю, захаваўшы ў сабе свае чалавечыя якасьці, сваю чалавечую і нацыянальную годнасьць, засталіся нескаронымі. Рэжым не «перакаваў» іх у сваіх паслухмяных рабоў.



У супраціве ГУЛАГу ўдзельнічалі прадстаўнікі ўсіх народаў і нацыянальнасцяў, і сярод іх толькі беларусы вызначаліся сваёй актыўнасцю і баявітасцю. І таго ад нас не адняць. Мы – не талерантныя і паслухмяныя, мы ціхія і маўклівыя толькі да таго часу, наколькі хапае цярпеньня трываць, а потым... То наш класік Якуб Колас яшчэ да бальшавіцкага перавароту (1909) пісаў:

*Я – мужык, а гонар маю.*
*Гнуся, але да пары.*
*Я маўчу, маўчу, трываю,*
*Але скора загукаю:*
*«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»*

Вось як піша пра беларусаў сябра Цэнтральнага праваду АУН (Арганізацыя Украінскіх нацыяналістаў) прафесар Лука Паўлішын у сваёй кнізе «Як роса на сонці»: *«Лепш за іншых паводзілі сябе беларусы, у якіх было штосьці на выгляд касы ўзаемадапамогі. Дапамагалі і ўкраінцам, калі тыя з разуменьнем ставіліся да праблемаў іхняга народу»*.

Не было ў ГУЛАГу такога паўстаньня, на чале якога б не стаялі беларусы: у МінЛягу – Сямён Раманчук, пра якога добра напісала Ларыса Геніюш у сваёй кнізе «Споведзь»; у ЛесЛягу – Піваварaў, былы наркам БССР; у РэсЛягу – Васіль Каўшыла; у СтэпЛягу – Васіль Неліповіч, Надзея Дземідовіч, Вера Касмовіч; у АзярЛягу – Іван Свістун, Мікола Хромчанка; на 501-й будоўлі – былы палкоўнік Маўлыга...

І калі сёньня дзяржаўныя ды апазіцыйныя дзеячы Беларусі гавораць пра талерантнасць беларусаў, – барані Божа, ня верце ім, хлусяць, – нам, былым удзельнікам Супраціву ў ГУЛАГу, іх, гэтых дзеячоў, ніяк не зразумець – далёкія яны ад праўды.

Мы ж бачылі беларусаў зусім іншымі – актыўнымі і мужнымі ваярамі за свабоду чалавека і народа, пра якіх з удзячнасьцю згадваюць на ўсіх міжнародных канферэнцыях і кангрэсах былых палітвязьнаў ГУЛАГу.

Але ў сваіх успамінах я ня стаў вылучаць беларусаў з агульнага складу лагернікаў і падкрэсьліваць выключную ролю якой-небудзь адной нацыянальнай суполкі ў супраціве ў ГУЛАГу.

Такое б вылучэньне абразіла б іншых, паколькі вязьні ўсіх нацыянальнасцяў дзейнічалі самаахвярна, бо вораг ва ўсіх быў адзін, як і супольная мэта – імкненьне да свабоды чалавека і народа. А таму кроў, пралітая дзеля дасягненьня гэтых свабодаў, аднолькава ўзьдзейнічала на кожнага ўдзельніка Супраціву, заклікала быць непахісным у барацьбе за лепшае жыццё, за свабоду сваёй Радзімы.

Яна, гэтая кроў, і сёньня не дае нам спакою. І хоць сілы ўжо ня тыя, але ж і час іншы.

І таму ў мяне нараджаецца папярэджваньне тым, хто кіруе дзяржавай і вядзе яе назад, у адваротны бок, да тых часоў, ад якіх мы адракліся, – народ як крыгаход у вірлівую вясну, і таму вы не прымусіце яго ніякім чынам вяртацца да мінулага, да праўлення сатаны, ён прарве любыя плаціны і загародкі, і разам з гэтым і вас зьмяце з твару зямлі. Таму падумайце пра тое і задумайцеся.

Застаючыся вернымі памяці тых, хто паклаў свае жыцьці ў ГУЛАГу, а іх тысячы і тысячы, мы ўпэўненыя, што і ў Беларусі «загляне сонца і ў нашае ваконца». Загляне! Засвеціць шчодрымі і вольнымі промнямі!

І гонарам нашых нашчадкаў будуць не вялікія будоўлі камунізму – Нарыльск з Варкутой, Калыма з Тайшэтам, – а супраціў таталітарнаму крываваму рэжыму дзеля свабоды чалавека і народа, дзеля такой вялікай мэты, каб і на Беларусі прыйшло «ўнукаў панаваньне, там, дзе сягоньня плача дзед».

*Рыгор Клімовіч,*
*Гомель, 15 верасьня 1999 года*